● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

15 жніўня 1996 г. чацвер, № 203 (23006)



# ЗВЯЗДА


## Дзяржаўная адукацыя перастае быць бясплатнай

**У 1996/97 навучальным годзе дзяржаўныя ВНУ Беларусі папоўняць 30 тысяч студэнтаў-першакурснікаў. 23 тысячы з іх будуць атрымліваць адукацыю бясплатна, а 7 тысячам за набыццё ведаў давядзецца плаціць.**

Варта заўважыць, што на працягу некалькіх гадоў у дзяржаўных ВНУ адбывалася пашырэнне практыкі навучання на платнай аснове, а сёлета з іх упершыню былі зняты ўсялякія абмежаванні на платны набор студэнтаў.

Найбольшая колькасць «платных» студэнтаў на сённяшні дзень атрымліваюць адукацыю ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. А вось самая высокая плата за навучанне ўстаноўлена флагманам айчыннай навукі — Беларускім дзяржаўным універсітэтам.

Асаблівасцю будучага навучальнага года стане зніжэнне колькасці студэнтаў, якія вучацца завочна: у працэнтных суадносінах яны складаюць менш за 40 працэнтаў ад агульнай колькасці першакурснікаў. А вось вячэрняя форма навучання, відаць, неўзабаве наогул перастане існаваць: вячэрнія аддзяленні захаваліся толькі ў лічаных ВНУ.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Створаны нафтавы гандлёвы дом

**У цяперашняй сітуацыі вострай няхваткі паліўных сродкаў для забеспячэння ўборачнай — добрая вестка аб стварэнні нафтавага гандлёвага дома, які аб'ядноўвае магутнасці такіх гігантаў гэтай галіны, як канцэрн «Белнафтапрадукт», наваполацкае прадпрыемства па транспарціроўцы нафты «Дружба», Брэсцкае абласное і Кобрынскае міжраённае прадпрыемствы па забеспячэнню нафтапрадуктамі і шэраг іншых.**

Асноўная мэта гандлёвага дома — аб'яднанне сродкаў гэтых прадпрыемстваў для лепшага забеспячэння перш за ўсё сельскай гаспадаркі прадуктамі нафтаперапрацоўчай галіны. На сённяшні дзень, як заявіў на брыфінгу, што адбыўся нядаўна ў Нацыянальным прэс-цэнтры, генеральны дырэктар Беларускага нафтавага гандлёвага дома Тадэвуш Пархімовіч, праблем з забеспячэннем гаспадарак нафтапрадуктамі практычна не ўзнікае, але пастаянна расце запазычанасць гаспадарак і ў шэрагу выпадкаў гэта адбываецца пад націскам мясцовых органаў улады. Часцей за ўсё нафтапрадукты забіраюцца ў доўг: калі ў студзені сума запазычанасці складала 187 мільярдаў рублёў, то зараз — 202. Беларускі нафтавы гандлёвы дом зацікаўлены, вядома, у тым, каб значна знізіць кошт і дызельнага паліва, і бензіну. Але як гэта зрабіць? Тым больш, што статутны капітал наваствораннай кампаніі не такі ўжо і вялікі — усяго 1,6 мільярда рублёў. Таму гандлёвы дом зацікаўлены перш за ўсё ў тым, каб скасаваць даўгі шляхам атрымання сельскагаспадарчай прадукцыі ад гаспадарак і далейшай яе рэалізацыі з мэтай зарабіць хоць якія-небудзь грошы. Інакш атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы забяспечваюць гаспадаркі палівам, а сродкаў за сваю прадукцыю не бачаць. Вось і вырашана зрабіць гэты працэс больш канкрэтным: за бензін і мазут неабходна плаціць, бо ёсць тэндэнцыя ягонага зыходу за межы рэспублікі, у тую ж Расію. Зараз, у час гарачай пары жніва, варта задумацца аб гэтым.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



*Там, у краі нашага маленства,*
*усё здаецца вечным і непарушным:*
*бяжыць ціхая рачулка,*
*сумуюць па табе вербы,*
*без стомы чакае жывая, надзейная хата,*
*якая ратавала ад усіх дажджоў і крыўдаў.*
*Вось зараз ірванеш праз масткі —*
*весела загамоняць кладкі,*
*завітаюцца, засмяюцца,*
*павядуць на адзіна родны бераг...*
*Не бяжыцца — хістаюцца кладкі...*
*Відаць, і яны адчуваюць*
*цяжар нашых жыццёвых ношаў,*
*прыдбаных недзе там,*
*на процілеглым беразе...*

**Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАЦВЕРДЗІЎ ГАТОЎНАСЦЬ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З ПРЭСАЙ ДЗЕЛЯ ЎСТАНАЎЛЕННЯ ІСЦІНЫ

**Важнейшыя праблемы жыцця беларускай дзяржавы і яе народа, супрацоўніцтва з рэспублікамі былога Саюза, і ў першую чаргу з Расіяй, сталі тэмай інтэрв'ю, якое даў Аляксандр Лукашэнка рэдактару «Российской газеты» Анатолю Юркову. Сустрэча адбылася 14 жніўня ў сталічнай рэзідэнцыі беларускага Прэзідэнта.**

Апярэджваючы размову, кіраўнік нашай дзяржавы пацвердзіў сваю гатоўнасць супрацоўнічаць як з прадстаўнікамі беларускіх СМІ, так і з журналістамі іншых дзяржаў дзеля ўстанаўлення ісціны, рэалізацыі права грамадзян на аб'ектыўную інфармацыю. Прэзідэнт адзначыў, што «Российская газета» мэтанакіравана і спакойна, не гонячыся за таннымі сенсацыямі, дапамагае свайму ўраду не толькі рэфарміраваць эканоміку, але і фарміраваць новую свядомасць расійскіх грамадзян. У гэтым кантэксце Аляксандр Лукашэнка з цікавасцю ўспрыняў пытанне Анатоля Юркова аб пошуках агульнанацыянальнай ідэі, вакол якой кансалідаваліся б усе слаі беларускага грамадства, усе палітычныя сілы. Як вядома, пошукамі такой ідэі заклікаў заняцца Расію і Барыс Ельцын. У сваіх разважаннях на гэту тэму Прэзідэнт зноў падкрэсліваў, што такая ідэя не павінна быць утапічнай, а гуманнай, рацыянальнай і, у пэўнай меры, прагматычнай. Яна павінна быць звернута да канкрэтнага чалавека, грунтавацца на творчай і стваральнай працы, ствараць перадумовы для грамадскай згоды.

У інтэрв'ю закранаіся таксама пытанні інтэграцыі краін былога Саюза, развіцця палітычных і эканамічных адносінаў Беларусі з сусветным супольніцтвам, узаемаадносінаў цэнтральнай і рэгіянальнай уладаў у рэспубліцы і іншыя.

У гутарцы з Аляксандрам Лукашэнкам прымалі ўдзел генеральны дырэктар «Российской газеты» Павел Гурын, уласны карэспандэнт гэтага выдання ў нашай рэспубліцы Уладзімір Яфанаў, член савета расійскага Нацыянальнага касмічнага банка Андрэй Аршынаў і камерцыйны дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства «Касмічная сувязь» Міністэрства сувязі Расійскай Федэрацыі Мікалай Лук'янцаў.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 292

### Аб прадастаўленні юрыдычным асобам адтэрміноўкі па выплаце запазычанасці па падатках і пені

У мэтах нармалізацыі разлікаў юрыдычных асоб з рэспубліканскім бюджэтам і іх фінансавай стабілізацыі **п а с т а н а ў л я ю:**

1. Даць юрыдычным асобам адтэрміноўку па выплаце запазычанасці па падатках на прыбытак, на дабаўленую вартасць, на паліва, на нерухомую маёмасць, па надзвычайнаму падатку і акцызах (акрамя падаткаў, што спаганяюцца пры ўвозе тавараў на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь), якая ўтварылася на 1 студзеня 1996 г. з-за адсутнасці грашовых сродкаў на іх рахунках у банках, а таксама па выплаце пені за несвоечасовае ўнясенне названых падаткаў у бюджэт па стану на 1 студзеня 1996 г.

Устанавіць, што юрыдычныя асобы ажыццяўляюць пагашэнне запазычанасці па вышэйназваных падатках і пені ў перыяд са жніўня 1996 г. па жнівень 1998 г. шляхам выплаты 1/24 гэтых сум штомесяц без налічэння пені за несвоечасовае ўнясенне падаткаў, пералічаных у частцы першай гэтага пункта.

У выпадку нявыплаты запазычанасці па гэтых падатках і пені ва ўстаноўлены тэрмін пеня налічваецца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

2. Забараніць з дня ўступлення ў сілу гэтага Указа налічэнне і выплату ўсіх відаў прэмій кіраўнікам і галоўным спецыялістам (іх намеснікам) юрыдычных асоб, якія маюць запазычанасць па плацяжах у бюджэт, што ўтварылася з 1 студзеня 1996 г., да поўнага пагашэння гэтымі юрыдычнымі асобамі запазычанасці перад бюджэтам.

3. Міністэрству фінансаў і Міністэрству эканомікі стварыць камісію пад кіраўніцтвам міністра фінансаў для падрыхтоўкі прапаноў аб адтэрміноўцы юрыдычным асобам па выплаце пені за несвоечасовае ўнясенне імі пасля 1 студзеня 1996 г. падаткаў і збораў у бюджэт і вызначыць парадак работы гэтай камісіі.

Устанавіць, што юрыдычным асобам адтэрміноўка па спагнанню ўказанай пені можа давацца пры ўмове аплаты працы іх работнікаў у адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай работнікаў Рэспублікі Беларусь з захаваннем гэтай умовы да поўнага пагашэння юрыдычнымі асобамі адпаведнай запазычанасці па падатках і зборах.

4. Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому, гаспадарчым аб'яднанням, створаным урадам Рэспублікі Беларусь, 1-га і 15-га чысла кожнага месяца прадстаўляць у Міністэрства фінансаў інфармацыю аб пагашэнні юрыдычнымі асобамі запазычанасці перад бюджэтам.

5. Прызнаць страціўшым сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 лютага 1996 г. № 80 «Аб вызваленні юрыдычных асоб ад выплаты пені» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 6, арт. 143).

6. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

13 жніўня 1996 г., г.Мінск.

## АДНЫМ СКАЗАМ

● Распараджэннем начальніка Гомельскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў **вывучаецца магчымасць стварэння** ў вобласці **атрадаў конна-патрульнай службы**: як паказвае вопыт, коннай міліцыяй значна зручней патруляваць цяжкадаступныя месцы, да таго ж утрыманне коней абыходзіцца танней, чым аўтамабіляў.

● **432 тысячы літраў піва «Баварыя»** на суму амаль 10 мільярдаў рублёў, канфіскаваных на Маладзечанскім кантрольным пасце з чыгуначнага састава, які рухаўся транзітам у Расію, накіравана ў даход беларускай дзяржавы.

● **Прэстыжнай міжнароднай прэміі** «Факел Бірмінгема» — «За паспяховае эканамічнае выжыванне і развіццё ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу» **ўдастоены адразу шэсць прадпрыемстваў** Магілёўскай вобласці.

● Плата за перасячэнне межаў Літвы на аўтатранспартным сродку складае 150 долараў, Казахстана — 280, Балгарыі — 300 — устаноўленая ж нядаўнім распараджэннем беларускага ўрада **сума ў 150 долараў можа быць зніжана** з-за негатыўнай рэакцыі некаторых замежных краін.

● **Сярэдні конкурс** у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі сёлета, **паводле апошніх звестак, склаў 2,3 чалавекі** на месца (летась — 1,9).

● **Сярэднямесячнае ўтрыманне ў атмасферы** Мінска пылу, дыаксіду серы, аксіду вугляроду, фенолу ніжэй за дапушчальныя санітарна-гігіенічныя нормы, а вось дыаксіду азоту і аміяку — амаль у два разы вышэй за нарматыўныя нормы, асабліва ў раёне вуліц Ціміразева, Дражні, Шчорса, плошчы Свабоды.

● У сераду ў балгарскім сяле Рупітэ ў прысутнасці многіх тысяч людзей **адбылося пахаванне вядомай прадказальніцы Вангі**: у свой час яна дакладна ўказала дату пачатку другой сусветнай вайны, увод савецкіх войскаў у Чэхаславакію і нават дзень і гадзіну сваёй смерці — 11 жніўня 1996 года ў 10 гадзін 10 хвілін.

## ПРАГРАМА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСІ — ШЛЯХ У БУДУЧЫНЮ

**Не толькі эканамічна важным для нашай дзяржавы, але і неабходным з палітычнага пункту гледжання фактам лічыць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выпрацоўку праграмы дзеяння краіны на аглядную будучыню. Аб гэтым кіраўнік беларускай дзяржавы заявіў, адкрываючы нараду, прысвечаную абмеркаванню праекта Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года.**

Удзел у пасяджэнні, якое адбылося 14 жніўня, прынялі кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, кіраўнік спраў Прэзідэнта Іван Ціцянкоў, старшыня праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Тамара Віннікава, намеснікі прэм'ер-міністра Уладзімір Гаркун, Сяргей Лінг, Валерый Кокараў, а таксама непасрэдныя аўтары праектаў.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што факт распрацоўкі праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця з'яўляецца важным для рэспублікі не столькі ў эканамічным, колькі ў палітычным аспекце. Аднак пры гэтым кіраўнік дзяржавы адзначыў, што яе прыняцце не выклікана неабходнасцю збіць палітычную напружанасць у рэспубліцы.

«У працэсе работы над праграмай мы адчулі, што гэты дакумент можа стаць у далейшым падставай для распрацоўкі шляху Беларусі як у будучым годзе, так і да пачатку наступнага стагоддзя», — падкрэсліў Прэзідэнт. І ўсё ж сам факт падрыхтоўкі некалькіх праграм далейшага развіцця, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, ужо гаворыць аб тым, наколькі важна было ведаць пазіцыі ўсіх галін улады адносна будучыні нашай дзяржавы.

Такім чынам, на разгляд былі вынесены чатыры дакументы. Адну з праграм падрыхтавала незалежная кансалтынгавая група на чале з Эдуардам Эйдзіным, другая распрацавана ўрадам рэспублікі, трэцяя, найбольш вузкая, якая закранае спецыфічныя фінансавыя пытанні, — Нацыянальным банкам, а ў аснову чацвёртай пакладзены комплекс прапаноў, унесеных дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Аляксандр Лукашэнка прапанаваў абмеркаваць таксама шэраг пытанняў, якія датычаць ідэалагічнага забеспячэння будучай праграмы. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы адзначыў важнасць апошняй прапановы, лічачы, што з распрацоўкай гэтага напрамку «можна будзе паспрабаваць выпрацаваць ідэалогію нашай дзяржаўнасці, знайсці тое рацыянальнае зерне, на якое можна будзе абаперціся ў прапагандзе і правядзенні пераўтварэнняў і ўдасканаленні беларускай эканомікі».

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ВЕРЫЦЬ: БЕЗВЫХОДНЫХ СІТУАЦЫЙ ПРОСТА НЕ БЫВАЕ

Магу засведчыць: на яго ўрокі вучні (і я некалі быў сярод іх) спяшаліся з задавальненнем. Бо ведалі, што ні пры якіх абставінах акадэмічныя 45 хвілін не ператворацца ў нудную жвачку. Нават калі і залепіць некаму «двойку», то зробіць гэта з жартачкамі.

Памятаю, як на самых першых занятках па хіміі ён здзівіў нас, тады вучняў 7 класа, дэманструючы неверагодныя фокусы з агнём і прабіркамі. А ўжо потым былі шчырыя размовы ды займальныя гісторыі з жыцця. У тым ліку ўласнага. Дзяўчынкі называлі яго «татачка». Мужчынская палова класа салідна басіла — «Яўгенавіч». І ў гэтым не было ні кроплі панібрацтва.

Настаўнік ад Бога, любімы вучнямі і паважаемы калегамі, Уладзімір Яўгенавіч Валністы вылучаўся нават на званне настаўніка года. І вось зусім нядаўна я даведаўся, што ён працуе ... дырэктарам міні-кафэ на беразе Свіслачы.

Так што знайшоў я свайго настаўніка на яго новым рабочым месцы. Пагаманіць спусціліся ў суседні парк. Я папрасіў пачаць з «афрыканскіх матываў». Што мелася на ўвазе? Відаць, дарэчы будзе кароценькая біяграфічная даведка.

Пасля Мінскага педінстытута Уладзімір Яўгенавіч тры гады адпрацаваў у школе з фізіка-матэматычным ухілам. Затым Міністэрства адукацыі накіравала яго разам з жонкай, настаўніцай біялогіі, на курсы замежнай мовы аж у Маскоўскі педінстытут - рыхтавалі да камандзіроўкі за рубеж. Новую для сябе вучобу абодва закончылі на выдатна і па размеркаванню паехалі на экватар - у Народную Рэспубліку Конга. Выкладалі там у сталічным ліцэі. Вось чаму маё першае пытанне было пра Браззавіль.

**— Тры гады вы «варыліся» ў зусім іншай адукацыйнай сістэме. Чым адрозніваецца афрыканская ад нашай? Падзяліцеся ўражаннямі, Уладзімір Яўгенавіч.**

— Дзеці ў Конга навучаюцца па французскай мадэлі. Пасля заканчэння васьмігадовай (а там гэта сярэдняя) школы адбываецца строгая дыферэнцыяцыя па інтарэсах. Вучобу яны працягваюць у ліцэях з рознай спецыялізацыяй — сельскагаспадарчых, тэхнічных і гэтак далей. Тры гады паглыблена вывучаюць вядучыя прадметы.

Ліцэй, у якім нам з жонкай, прама скажу, пашчасціла працаваць, быў з фізіка-хіміка-матэматычным ухілам. Дарэчы, гэта зусім не азначае, што гісторыю, геаграфію або мовы там ігнаруюць. Гуманітарныя прадметы ў праграме ёсць, але ў плане агульнага развіцця. У выніку дзеці атрымліваюць рознабаковую адукацыю, паглыбленую ў нейкім адным накірунку. І гэта, па-мойму, важна.

А што ў нас? Школьная праграма надзвычай перанасычаная. Наша дзятва аддае немаведама колькі часу вывучэнню груваcткіх дысцыплін. У жыцці яны ім патрэбны, але не ў такім аб'ёме.

Спашлюся на абсалютна канкрэтны прыклад з уласнай практыкі. Аднойчы мой урок у 10 класе наведаў выкладчык хіміі з універсітэта горада Осла. Ён быў шакіраваны. «Тое, што вы выкладаеце зараз, у нас вывучаецца на другім курсе хімфака універсітэта», — пачуў я.

**— Вы можаце параўнаць розныя сістэмы адукацыі і ў выніку расказаць спецыялістам шмат карыснага. Але сёння я хацеў бы пачуць ад вас пра вашых кангалезскіх вучняў. Яны такія ж, як і нашы, ці нечым адрозніваюцца? У маім пытанні, мусіць, прысутнічае элемент здаровай рэўнасці, але тым не менш.**

— Вучань-кангалезец, наогул вучань-афрыканец, і яго равеснік з Еўропы — дзве вялікія розніцы.

Трэба памятаць: афрыканскія краіны раней былі каланіяльнымі. Што ў многім адбілася на псіхалогіі людзей. Іх школьнікі — крышку запалоханыя дзеці, гэта ёсць. І адчуваецца ў адносінах да белага выкладчыка. У Афрыцы наогул да настаўніка ставяцца з надзвычайнай пашанай.

Але галоўнае нават не гэта. Пра сваіх кангалезскіх вучняў я вынес ўражанне, што яны вельмі культурныя, надзвычай інтэлігентныя людзі. Не сакрэт, што ў нашай школе можна сустрэць нявыхаваных, нават проста грубых дзяцей. А там за тры гады я не сустрэў практычна ніводнага выпадку парушэння дысцыпліны. Верыш? Практычна ніводнага.

**— У такім разе, іх веды павінны быць больш грунтоўнымі — як вынік уважлівасці і ўседлівасці.**

— Я так не сказаў бы. У нашых лепш развіта кемлівасць.

Акрамя таго, я абсалютна ўпэўнены, што ў свеце няма больш магутнага генафонду, чым у нашай краіне. Беларусь у выніку будзе квітнеючай дзяржавай дзякуючы таму, што ў абсалютнай большасці моладзь у нас — адукаваная і эрудзіраваная. Чаго не аднімеш, таго не аднімеш.

**— У 1989 годзе вы вярнуліся ў Мінск, дзе прадоўжылі сваю кар`еру настаўніка хіміі. І адразу ў адной з прызнана лепшых (калі не лепшай) школ горада — 54-й.**

— Шчаслівы выпадак. Пакуль мы з жонкай былі ў камандзіроўцы, дачка вучылася тут, менавіта ў 54-й. Калі вярнуліся, гарадскі аддзел народнай адукацыі даў нам магчымасць выбару. У выніку жонку накіравалі выкладаць біялогію ў 54-ю, а я напісаў заяву ў 33-ю, абедзве яны побач з нашым домам. У той жа дзень вырашыў зайсці да жонкі на работу, пазнаёміцца з новым дырэктарам. Вынікам знаёмства стала прапанова працаваць там.

**— Я хачу задаць вам самае складанае для нас абодвух пытанне. Але паспрабую яго змякчыць. Я разумею, што з цягам часу фінансавае становішча настаўніка станавілася ўсё больш жабрацкім. Атрымліваць капейкі за знясільваючую працу, напэўна, рабілася ўсё больш крыўдным. Тым больш, што малады, адукаваны мужчына мог знайсці сабе высокааплатную работу...**

— Ведаеш, кожнаму чалавеку дадзена небам нейкае сваё, уласнае прызначэнне. Маё — быць настаўнікам. Я люблю гэтую работу, люблю дзяцей. На ўроках выкладваюся так, што кашуля мокрая. Хочацца, каб вучні ведалі тое, што ведаеш ты... Але рана ці позна вяртаешся з нябёс на зямлю, успамінаеш пра матэрыяльнае становішча — сваё і сваіх блізкіх, і апускаюцца рукі.

**— Рашэнне аб тым, каб заняцца ўласнай прадпрымальніцкай дзейнасцю — ці лёгка яно вам далося? Гэта не было звычайнай пераменай рабочага месца?**

— Спачатку варта ўдакладніць. Пра ўласную прадпрымальніцкую дзейнасць гаварыць пакуль што рана. Я не з'яўляюся гаспадаром кафэ, а толькі яго дырэктарам. А што датычыцца рашэння... Была ломка. Яе можна параўнаць з прагрэсіруючым радыкулітам. Мы прывыкаем да свайго рабочага месца, і асмеліцца на нейкі радыкальны крок бывае складана, нават страшна. Тым больш, ведаючы наш айчынны бізнес, яго няўстойлівасць, не вельмі пазітыўныя адносіны да яго ў грамадстве і нават з боку ўладаў.

Я пачынаў з таго, што на працягу некалькіх месяцаў у другой палове дня, пасля школы, працаваў сталярам у цэху па вытворчасці звычайных будаўнічых «козлікаў». Затым усё ж такі рашыўся. У той момант крайне важнай для мяне была падтрымка тых, хто знаходзіўся побач.

Але я так і не змог канчаткова пакінуць школу — вяду некалькі ўрокаў у тыдзень. Увесь астатні час — з раніцы да позняй ночы — аддаю новай справе.

**— І як адрэагавалі ў сям`і на такія перамены?**

— Перад тым як зрабіць кардынальны крок, я шмат раіўся з жонкай. Як і любой жанчыне, ёй хацелася б, каб муж больш часу аддаваў сям'і. Але трэба было выбіраць, і я сказаў ёй: «Альбо я сяджу дома — і мы з цяжкасцю зводзім канцы з канцамі, альбо не сяджу — і тады нешта хоць крыху мяняецца». Яна згадзілася на другое.

**— На гэты конт нехта разумна сказаў: «Я не сяджу без грошай, без грошай я кручуся». І ўсё ж прафесія прадпрымальніка не самая камфортная. Сёння яе адносяць да адной з найбольш рызыкоўных. Вас гэта не пужае?**

— Ды не. Я займаюся адкрытым бізнесам, дзе ўсё навідавоку. Да нас прыходзяць адпачыць і міліцыя, і крымінал, і падатковая інспекцыя, і санстанцыя. Усё, што іх магло б зацікавіць, яны бачаць. Дзякуй, што з пытаннямі не прыстаюць (цьфу, цьфу!).

**— Ваша адукаванасць вам неяк дапамагае?**

— Агульнае развіццё, інтуіцыя — без іх сёння ў бізнесе складана, а заўтра будзе яшчэ складаней. Я лічу, што ўся «пена» (можа, і я да яе аднушуся), гэта значыць выпадковыя людзі, павінна ўсплыць і адысці. Само жыццё вымусіць іх пакінуць такую спецыфічную сферу дзейнасці. Сусветны вопыт тое даказвае. Застануцца людзі высокаадукаваныя, прафесіяналы. Таму што бізнес — карпатлівая работа для эрудытаў.

**— За апошнія гады на вуліцах нашых гарадоў павырасталі як грыбы столікі з парасончыкамі. Хто гаспадары ўсіх гэтых міні-кафэ, рэстаранчыкаў? Вы ж бываеце ў іх асяроддзі. Што яны за людзі?**

— У большасці выпадкаў былыя медыкі, настаўнікі, навукоўцы, інжынеры. Людзі адукаваныя і інтэлігентныя. Што накладвае адбітак на характар адносінаў у бізнесе і на бізнес, спадзяюся, таксама.

**— Ад якой работы вы адчуваеце большае задавальненне? Калі ўзбагачаеце людзей інтэлектуальна ці корміце іх у прамым сэнсе слова?**

— Калі шчыра, то большае задавальненне я атрымліваю ад работы ў школе, з дзецьмі.

**— Мяне цікавіць ваша ацэнка сітуацыі ў школе. Цяпер ужо — як бы погляд збоку. Наша сістэма адукацыі некалі лічылася перадавой. Зараз з самых лепшых школ ідуць лепшыя настаўнікі. Ці можна тут нешта паправіць?**

— Я не палітык і мне цяжка выдаваць нейкія рэцэпты. Адно я ведаю дакладна: безвыходных сітуацый не бывае. Мажліва, больш узважана трэба падыходзіць да бюджэту, да затрат на адукацыю. Можа, нават смялей асвойваць сістэму платнай адукацыі.

**— Калі б нешта ў нашай з вамі роднай школе змянілася да лепшага, я маю на ўвазе матэрыяльны бок справы...**

— Вядома, вярнуўся б! Не задумваючыся ні на секунду.

**Распытваў Цімур КУДЗЕЯР.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## ТАЛЕНТ

Ён аддаваў усё да ніткі,  
Дзяліў скарынку напалам,  
Свае нялёгкія здабыткі  
Не спажываў ніколі сам.

Шаптаў зласлівец, што хітруе,  
Каб толькі славу заслужыць,  
Што аддае драбніцу тую,  
Якое не паспеў спажыць.

Паклёпаў ледзяшы раставалі,  
Бо ў свеце толькі праўда ёсць:  
Тварыць дабро патрэбен  
талент,  
Прыносіць гора —  
толькі злосць.

## АДНА

Жанчына з сіняком пад вокам  
Па выбаінах, па вадзе,  
Людзей цураючыся, бокам,  
Не ведае, куды брыдзе.

Адна, з нявыплаканым горам,  
З дрыготкай кропляй на губе,  
Нясе нявыказаны сорам  
Не за сябе, не за сябе.

Абы не бачылі суседкі,  
І каб ніхто не спагадаў,  
Сама сабе купляе кветкі,  
Каб думалі, што любы даў.

*ЭКСЛІБРЫС «ЗВЯЗДЫ»*

## ЖЫЦЦЁ ПА КАРАТКЕВІЧУ

**Караткевіч У. Творы: Проза, драматургія, публіцыстыка. — Мн.: Маст. літ., 1996. — 557 с.**

Сіла класічнай літаратуры — у яе штодзённым, разлічаным на ўсе пакаленні, звароце да сучаснасці. Сіла прозы, паэзіі, публіцыстыкі, драматургіі Уладзіміра Караткевіча — у шанаванні адвечнага права беларусаў на волю, незалежнасць.

Толькі што выдавецтва «Мастацкая літаратура» дапоўніла васьмітомны (а фактычна — дзевяцітомнік, бо апошні том склаўся з 2 кніг) Збор твораў Уладзіміра Караткевіча кнігай «Творы» ў 557 старонак. Упершыню разам сабраны легенды, апавяданні, раздзелы з рамана «Каласы пад сярпом тваім», публіцыстычныя артыкулы, у большасці сваёй невядомыя раней шырокаму колу чытачоў. Хіба што аповесць «У снягах драмае вясна» ўжо пабачыла свет асобным выданнем (у 1989 годзе). Укладанне, падрыхтоўку тэкстаў ажыццявіў, зрабіў каментарыі літаратуразнаўца А. Верабей.

Адкрывае новы том Уладзіміра Караткевіча легенда «Маці ветру». Вызначальна, што напісаны твор у сакавіку 1956 года. У легендзе — зварот пісьменніка да падзей Крычаўскага паўстання 1743—1744 гадоў. Пазней Караткевіч развіў гэтую тэму ў драме «Маці ўрагану». А пачынаецца легенда «Маці ветру» вось такімі словамі:

«Прадавалася Радзіма.

Яна прадавалася з беднаю сваёю зямлёй, са старажытнымі пушчамі, з блакітным крышталем рэк і квітнеючымі лугамі, з вадою і небам, замкамі і халупамі, з матчынай ласкай і ўсмешкай дзіцяці, з мудрымі дзядамі і пяшчотнымі дзяўчатамі, з камянямі старажытных будынкаў, з крывавай гісторыяй народа, з яго сучасным і будучым, з яго воляй.

Прадавалася Радзіма.

Яна прадавалася цалкам і ўразбіўку, за грошы і напавер. Прадавалася кожным, хто не ленаваўся, і кожнаму, хто пажадаў бы крывадушнаму другу і крыважэрнаму ворагу.

Даражэй прадаваліся правы феадалаў на ўладу, танней — вера і зусім танна — чыстая, як золата, беларуская мова».

Уражвае і велізарны для беларускай кніжкі сёння тыраж «Твораў» У. Караткевіча — 7000 экземпляраў. Хаця тут варта ўзгадаць, што ў 1987 годзе першы том васьмітомніка выйшаў у свет накладам 60 тысяч асобнікаў. Праўда, ужо другая кніга восьмага тома была выдадзена ў колькасці 45 тысяч. Пра чвэрць чытачоў тады як быццам забыліся. Сёння, выдаўшы (паўтаруся: фактычна дзевяты том са Збору твораў) новую кнігу Уладзіміра Караткевіча, забыліся як мінімум на 53 тысячы чытачоў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ЖЫЦЦЁ*

# ДЗІЦЯ БЕЗ НАГЛЯДУ

**Хаця б часова пакінутае бацькамі, яно нярэдка становіцца ахвярай злачынцаў**

**КАЗКА ТУТ БЫЦЦАМ БЫ НЕ ДА МЕСЦА. Надта ўжо жорсткая тэма. І ўсё ж прывяду народны сюжэт пра ваўка і казлятак. Памятаеце, маці-каза адлучылася па справах, а сваім дзеткам наказала не адчыняць дзвераў нікому. Як ні хітрыў шэры разбойнік, але ў яго нічога не выйшла.**

Гэта ў казцы, дзе канец, як вядома, заўсёды добры. У жыцці, на жаль, бывае інакш.

Грамадзяне, якія сочаць за прэсай, напэўна ўжо ведаюць пра рашэнне Магілёўскага абласнога суда, які прыгаварыў Мікалая Дзюбкова да вышэйшай меры пакарання за тое, што ён забіў траіх маленькіх дзяўчынак, згвалціўшы старэйшую, якой было ўсяго пяць годзікаў. Некаторыя падрабязнасці гэтай жудаснай трагедыі, якая разыгралася мінулай восенню ў быхаўскай вёсцы Верхняя Тошчыца, патрабуюць таго, каб пра іх ведалі. Каб у каго-нікаго яны моцна заселі ў памяці.

Дзяўчынкі былі сястрычкамі. У ракавы момант знаходзіліся дома адны, без нагляду. П'яны Дзюбкоў (сусед, дарэчы) шукаў, чаго б дабавіць. Узброіўшыся ломікам, пайшоў да суседзяў. Ну хіба малалеткі — двух, чатырох і пяці гадоў — перашкода рабаўніку? Адшукаўшы ў шафе ўсяго 6 тысяч рублёў (жыццё — капейка?), Дзюбкоў вырашыў пазбавіцца сведак. Самых маленькіх, якія ратаваліся, схаваўшыся пад ложкам, забіў ломікам, а старэйшую, нібы той воўк, пацягнуў у лес.

Дзюбкоў нармальны, без псіхічных адхіленняў. Як устанавіла экспертыза, ён нават не алкаголік. Шчымлівы штрых: заходзячы да суседзяў раней, ён частаваў дзяўчынак цукеркамі.

А тады, калі раптам стаў зверам, ён быў проста п'яны да страты розуму. Супакоіць такога мог бы дарослы. Але ні бацькоў, наогул ні адной паўналетняй асобы на шляху злачынцы не аказалася.

Быў бы гэты выпадак рэдкім, аб ім, мусіць, не ўзгадваў бы. Аднак у тым вось і бяда, што дзіця без нагляду становіцца звычайнай з'явай. Муслім Магамаеў — мяркую па яго інтэрв'ю расійскай прэсе — назірае з акна за жонкай, калі тая выгульвае сабаку. Чалавек хвалюецца за дарослага. Чаму ж такія бесклапотныя мы, тым больш у адносінах да родных, яшчэ неразумных дзяцей?

Драма, аналагічная быхаўскай, адбылася не так даўно і ў Магілёве. Да сяброўкі прыйшла ў госці прыяцелька з дачкой. У сяброўкі таксама была дачка. Дзяўчынак зачынілі ў кватэры, а самі пайшлі прагуляцца. Ну а тут — «воўк». Ды не адзін. «Ваша мама прыйшла, малачка прынясла»... Васьмігадовую дзяўчынку згвалцілі, прыхапілі з сабой каштоўныя рэчы і памінай як звалі.

У тым жа Быхаўскім раёне мела месца здарэнне, якое толькі выпадкова не закончылася трагічна. І гэта, заўважым, пасля таго, што адбылося ў Верхняй Тошчыцы. На гэты раз знікла чатырохгадовая дзяўчынка ў вёсцы Гарадзец. Бацькоў таксама не было дома: знаходзіліся на гулянцы. Пакуль праспаліся, тое ды сёе, прайшлі суткі. З вялікім спазненнем бацька звярнуўся ў міліцыю. Шукалі дзяўчынку ажно чатыры дні і ночы. Усе наяўныя сілы — і міліцыя, і вайскоўцы. І ў лясах, і ў вадаёмах, і, вядома ж, у населеных пунктах. Механізатар саўгаса «Спадарожнік» выпадкова натрапіў на дзяўчынку за 10 кіламетраў ад месца знікнення. Яна, ужо амаль непрытомная, ляжала ў стозе сена. Як такое малое дзіця засталося жывым, можна толькі здзіўляцца.

А што ж бацькі? У іх не знайшлося нават фотакарткі прапаўшай, яны не маглі сказаць, ува што была апранута дачушка. Інакш зрабіла бабруйская маці. Двухгадовую дачку, каб не пакідаць яе без нагляду, жанчына падкінула на ганак Дома дзіцяці. Калі гора-маці адшукала міліцыя, яна растлумачыла: маўляў, няма за што гадаваць.

Так, становішча ў краіне цяжкае. Закрываюцца дзіцячыя садкі, адышлі ў нябыт піянерскія лагеры, дарослыя, пазбавіўшыся хлеба на вытворчасці, здабываюць ежу то на агародах, то ў паходах па грыбы і ягады. А дзецям — вуліца або зачыненая кватэра. Тут іх і падпільноўваюць «драпежнікі».

Жанна, у якой забілі трох дачок, нарадзіла, пакуль суд ды справы (цяжарнай была яшчэ да страшнай падзеі), чацвёртае дзіця. Таксама дзяўчынку. На судзе жанчына была на руках з немаўляткам. Не рызыкнула пакінуць ні на кога. У яе ўжо ёсць вопыт. Горкі, невыносна горкі. Не дай Божа, каб яго яшчэ хто-небудзь займеў.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ЛЮСТЭРКА ТРЭСНУЛА

**Чым вымяраецца звычайнае чалавечае жыццё? Некаторыя лічаць: поспехам. Гэта значыць ступенню сацыяльнага статусу чалавека. Другім здаецца, што матэрыяльным дабрабытам: колькасцю грошай на ашчаднай кніжцы, наяўнасцю дачы, машыны, стыльнай мэблі і г. д.**

**З гэтага пункту гледжання жыццё Вікторыі Іосіфаўны Стралковай (Малашка) не бачыцца вельмі ўжо ўдалым. Ні ад поспеху, ні ад матэрыяльнага дабрабыту яна, як гаворыцца, не церпіць. У яе ёсць аднапакаёўка на Валгаградскай, ёсць сяброўкі таго ж прыкладна кола і ўзросту. Нарэшце, ёсць проста ўспаміны. Іх зашмат, і ўсе яны не вельмі салодкія, калі гаварыць мякка.**

**Жыццё, я думаю, можна вымяраць таксама ступенню пражытага гора. Тады Вікторыя Іосіфаўна можа лічыць, што пражыла недарэмна. Іронія атрымліваецца крыху гаркаватая...**

## 1.

Хто быў селянін Іосіф Малашка? У двух словах: проста чалавек. Да рэвалюцыі яго лёс мала адрозніваўся ад лёсу аднавяскоўцаў. Жылі непадалёк ад Мінска, на хутары Пушча (здаецца, яго зараз няма). Жылі бедна.

У час рэвалюцыі Малашка змагаўся на баку бальшавікоў. Быў паранены ў нагу, застаўся на ўсё жыццё інвалідам. Але працаваў не менш за іншых. А можа і больш — жылі яны па тым часе даволі заможна. Была моцная, наладжаная гаспадарка, была сям'я — дачка, двое сыноў, жонка.

Іосіф Малашка працаваў у калгасе. Пасвіў жывёлу. Летам яго замянялі на гэтай «пасадзе» дачка ды сыны. Бацька касіў траву: сена было патрэбна жывёле на зіму шмат. Вікторыя Іосіфаўна памятае бацьку справядлівым, сціплым, вечна занятым.

У самым пачатку 1938 года калгасніка Іосіфа Малашку арыштавалі органы НКУС па падазрэнню ў контррэвалюцыйнай дзейнасці.

Разам з ім узялі цэлую групу жыхароў хутара Пушча.

Усяго на хутары было 23 двары. Насельніцтва сямі з іх было выслана поўнасцю — не вярнуўся ніхто. З астатніх 16 двароў арыштавалі 11 чалавек. Іосіф Малашка быў апошнім у спісе. З 11 чалавек на хутар вярнуўся толькі адзін. Што з ім было — ніколі і нікому не расказваў.

Следства прад'явіла Іосіфу Малашку такія абвінавачанні. Не ўступаў у калгас (уступіў самым першым). Дзед меў 60 гектараў зямлі і наймаў парабкаў (хлусня). Польскі шпіён (стандартнае абвінавачанне). Травіў коней (калі бачыў, што нехта дрэнна абыходзіцца з канём, — мог пабіць). Знішчаў пасевы. І гэтак далей. Артыкулы 64, 68 КК БССР.

Усіх, каго ўзялі з Малашкам, аб'ядналі ў кантррэвалюцыйную арганізацыю, якая, вядома ж, ставіла сваёй мэтай звяржэнне Савецкай улады, забойства т.т. Сталіна, Варашылава, Будзённага і г. д.

Метады допытаў былі вельмі ўжо адмысловыя. Следчыя пераварочвалі табурэтку ножкамі ўверх, загадвалі сесці на адну з іх і закласці нага за нагу. Калі не ўседзеў, пачыналі збіваць. Рэдка хто вытрымліваў больш месяца. Іосіф Малашка пратрымаўся 5 месяцаў. «Тройка» вынесла яму прыгавор 14 лістапада 1938 года.

26 лістапада 1938 года Іосіф Малашка быў расстраляны ва ўрочышчы Курапаты, непадалёк ад таго месца, дзе пасвіў калгасную жывёлу.

Следчы, які вёў справу кантррэвалюцыйнай арганізацыі хутара Пушча, памёр у 1985 годзе ў Барысаве...

## 2.

Маці Вікторыі Іосіфаўны памерла ў тым жа 38-м годзе. Не змагла, значыць, перанесці. Засталіся Вікторыя — 15 гадоў, Віця — 12, Пеця — 10 гадоў. У дзіцячы дом іх, як звычайна, не забралі, у турму — таксама. Напэўна, палічылі, што старэйшая сястра зможа выгадаваць малодшых братоў.

На наступны год іх хутар «узбуйнілі» — перасялілі ў пасёлак Васлава. Для ўсіх пабудавалі толькі каробкі дамоў, астатняе дараблялі самі. Трое дзяцей ворага народа Малашкі падзялілі агульную долю. Толькі ім было значна цяжэй.

Хату да ладу яны, вядома, давесці не змаглі. Падлога была земляная, а дроў не было зусім. 13-гадовы Віця і 11-гадовы Пеця ўпрагаліся ў санкі і шлі па ламачча. Яно было сырое і больш шыпела, чым гарэла. Але печка крыху награвалася. Там яны ўтраіх сядзелі доўгімі зімовымі начамі.

Гаспадарку ім пакінулі. 13-гадовы Віця і 11-гадовы Пеця зрабілі загончык для каровы, авечак. Падатак з іх бралі па поўнай праграме, як з нармальнай сям'і. 47 кілаграмаў мяса, 120 яек, воўну, малако. Неўзабаве карову забралі на падатак. Авечкі зніклі таксама.

Ім ніхто не дапамагаў. Хто б і хацеў — баяліся. Курапаты, яны вось, побач, і чуткі пра іх паўзлі страшныя. Ніхто не хацеў паміраць.

Пры ўсім пры гэтым патрабавалася рабіць выгляд, што нічога не здарылася. Хадзіць на работу ў калгас, уступаць у камсамол, падпісваць пісьмы — падзякі таварышу Сталіну за шчаслівае калгаснае жыццё. І ўсюды трэба было быць першай. Каб не апынуцца першай у спісе на арышт, на адстрэл.

Вікторыя хадзіла ўвосень капаць калгасную бульбу босай. Было холадна. Каб сагрэцца, прабачце, мачылася на ногі...

Калі яна была ў КДБ і высвятляла з братамі абставіны гібелі бацькі, то не вытрымала і спытала ў маладых выхаваных (дакладней, вышкаленых) супрацоўнікаў: скажыце, чым адрозніваюцца камуністы ад фашыстаў? Тыя стрымана прамаўчалі. А тым, адказала Вікторыя Іосіфаўна, што камуністы знішчалі свой народ, а фашысты — чужы. Браты перапужаліся і моцна лаялі дома сястру. Быў 1988 год...

Як ні дзіўна, у вайну ім было лягчэй. У вайну людзі ім не баяліся дапамагаць. Апрача таго, ім далі 3,5 га зямлі, карову, каня. Браты крыху акрэплі, так што вайну перабедавалі.

Пасля вайны Вікторыя Іосіфаўна ва ўсіх аўтабіяграфіях пісала, што бацькі памерлі. Раны, здавалася ёй, пакрыху зацягваліся. І калі ў 60-х выпадкова трапіла ў Курапаты па ягады, то не падумала, што такімі буйнымі, сакавітымі і салодкімі яны бываюць звычайна на могілках...

## 3.

Тады, у 1988-м, Вікторыі Іосіфаўне выдалі пасведчанне аб смерці бацькі: памёр у месцах зняволення. У тыпавой кэдэбэшнай даведцы было іншае: расстраляны ў Мінску. Вікторыя Іосіфаўна спытала прама: Курапаты? Так, адказалі, Курапаты. Магчыма, ягады дачка збірала на магіле бацькі.

Яна добра памятае тыя ціхія размовы пра Наранскі лес (так Вікторыя Іосіфаўна называе Курапаты). Па сутнасці, жылі недалёка. Іх калгас суседнічаў з Дубаўлянамі. Мясцовыя жыхары расказвалі тое ж самае: расстрэльваюць зняволеных.

Непадалёк ад Цна- Іёдкава жылі бацькавы родзічы. Іх расказ Вікторыя Іосіфаўна запомніла дакладна. Як толькі сцямнее, з боку Мінска пачынаюць ісці «чорныя вораны». Потым пачынаецца страляніна, яна ідзе з перапынкамі ўсю ноч. Чутныя крыкі «За што?! За што?!»

Недзе Вікторыя Іосіфаўна прачытала, што ў Курапатах нібыта расстрэльвалі гамбургскіх яўрэяў. І правяла ўласнае «расследаванне». Знайшла жанчыну, якая была ў вайну сведкам расстрэлаў яўрэяў. Іх знішчалі між Зацэнню і саўгасам «Крупскі» (цяпер птушкафабрыка). Тая жанчына бегала глядзець і бачыла свежазасыпаныя равы.

Што датычыць рэчаў замежнай вытворчасці ў курапацкіх магілах, то і на гэта ў Вікторыі Іосіфаўны — факты. Яўрэяў перад знішчэннем абавязкова прымушалі распранацца. Так што ў іх магілах рэчаў увогуле быць не можа. Нарэшце, ёсць (дакладней — быў) сведка: цётка Вікторыі Іосіфаўны. Яна жыла ў Заслаўі і на працягу 1939—40 г г., бачыла, як ішлі эшалоны з Заходняй Беларусі і Прыбалтыкі з людзьмі. Частка з іх, верагодна, засталася назаўсёды ў Курапатах.

Але сведкі старыя. Яны паміраюць. Няма цёткі Вікторыі Іосіфаўны, няма жанчыны — сведкі яўрэйскіх расстрэлаў. Пройдзе дзесятак гадоў — не застанецца нікога...

## 4.

Пасля вайны Вікторыя Іосіфаўна пакінула малодшага брата ў вёсцы і «пайшла ў людзі». Скончыла настаўніцкія курсы, нейкі час вучыла дзяцей.

Нельга сказаць, каб яе пасляваеннае жыццё было лёгкім і роўным — у процілегласць даваеннаму. Для раўнавагі. Выйшла замуж за франтавіка, такога ж, дарэчы, круглага сірату і сына «ворагаў народа». Франтавік хутка захварэў на туберкулёз, фактычна не працаваў. За доблесную барацьбу з супастатам на франтах Вялікай Айчыннай дзяржава «адваліла» яму пенсію ў 33 рублі. Словам, Вікторыі Іосіфаўне самой прыйшлося цягнуць воз.

Яна была прадаўцом у ГУМе, ішла на работу да 9, вярталася ў 11 вечара; дзяцей забіралі з садзіка суседзі, і яны чакалі ля дзвярэй. Доўга так цягнуцца не магло — Вікторыя Іосіфаўна перайшла ў прыбіральшчыцы.

Потым было яшчэ шмат розных работ, нарэшце, апошняя — на аб'яднанні імя Леніна, з-за якой пенсія яе зараз больш-менш прыстойная: 526 тысяч рублёў, ці каля 37 долараў. Вянцом рабочай «кар'еры» была бальніца і тры запар аперацыі за некалькі месяцаў да пенсіі. Верагодна, арганізм свой рэсурс ужо выпрацаваў: Вікторыі Іосіфаўне выдалілі адразу жоўцевы пузыр, кісту на нырках і ўправілі грыжу...

Што, вы скажаце, надзвычайнага ў гэтым лёсе і ў гэтай жанчыне? Натуральна, нічога. Усё тыпова, стандартна для нашай краіны. Ёсць горш, ёсць лепш — сярэдні ўзровень, вось ён, апісаны вышэй.

Магло б быць: дваіх дзяцей забралі б у спецыяльны дзіцячы дом, а Вікторыя з яе 15 гадамі зусім цягнула б і на лагер. Дзіўна, што гэтага не адбылося. Наадварот, род не сканаў, мае працяг. Мог знікнуць, як знікалі тысячы і тысячы — пад корань. Нават без шыльдачкі на магільнай пірамідцы.

Праўда, страшная якраз гэтая тыповасць. У нас тут гэтым не здзівіш нікога. Гэта само сабой. Летась нам паказвалі па тэлевізары людзей з адрэзанымі галовамі ў Будзёнаўску — нават гэта забылася, новыя горы трупаў прымушаюць забываць. Што ж казаць пра падзеі 50—60-гадовай даўнасці? Уявіце, былі Курапаты з іх некалькімі дзесяткамі тысяч бязвінна забітых. Потым была вайна, дзе забілі яшчэ каля 50 мільёнаў, таксама абсалютна бязвінных. Несупастаўныя маштабы. А мы прывыклі думаць маштабна. Асобна ўзятая біяграфія губляецца сярод гэтых мільёнаў і мільёнаў...

Аднак ёсць, усё ж такі ёсць Вікторыя Іосіфаўна Стралкова. І яна нічога не забыла. І да самай апошняй сваёй хвіліны не забудзе. Таму што тое, што было з ёю — было. І яна прад'яўляе рахунак, дагэтуль нікім не аплачаны. Не лічыць жа за гэта паперку аб рэабілітацыі бацькі. Аказваецца, вы яго забілі ўсё ж дарэмна. І нават самі прызналіся. Дзякуй...

Можа, не варта ўсё гэта ўспамінаць? Многія не жадаюць. Многія апраўдваюць. Многія проста не хочуць аб гэтым ведаць. Але ж зноў паўтару: было, было, дарагія.

І гэта не выкрасліш з гісторыі. З яе наогул нічога не выкрасліш. Тым больш, сведкі яшчэ засталіся.

Забыць яны не могуць. Хоць бы і хацелі. Верагодна, трэба і нам памятаць? Бо надта часта гісторыя паўтараецца. Нават занадта...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# БЕЛАРУСЫ РАСІІ ПОЙДУЦЬ ПА СЛЯДАХ КАСЦЮШКІ, КАБ ВЫКАНАЦЬ ЯГО НАКАЗ

***Калізія гісторыі: праз два стагоддзі пасля вядомых падзей на Беларусі справай Андрэя Тадэвуша Касцюшкі ізноў займаюцца ў Расіі. Аказваецца, акрамя следу ў гісторыі некалькіх краін свету наш знакаміты зямляк пакінуў наказ: пабудаваць на сродкі з яго маёмасці... бальніцу ў горадзе Магілёве! Але справа гэтая аказалася нашмат больш складаной, чым здаецца.***

***Дакладная сума спадчыны, пакінутай Касцюшкам, і імёны яго нашчадкаў не афішыруюцца. Але адзін з гэтых людзей, сябра арганізацыі «Беларускага зямляцтва» ў Маскве Аляксандр КАРАКОЎСКІ, згадзіўся адказаць на пытанні «Звязды».***

**— Аляксандр Андрэевіч, як стала вядома пра наказ Касцюшкі? І чаму пра яго гавораць толькі цяпер, калі Беларусь і Расія заключылі пагадненні?**

— Тадэвуш Касцюшка сапраўды завяшчаў пабудаваць бальніцу ў Магілёве, і на гэта ёсць пісьмовае сведчанне. Але выканаць яго волю некалі перашкодзіла рэвалюцыя. Праўнучка Касцюшкі, якая жыла спачатку ў Вільні, потым у Магілёве, яшчэ перад рэвалюцыяй павінна была атрымаць спадчыну з ЗША, дзе яна захоўваецца. Але так і не паспела. А потым было некалькі войнаў...

**— Можа і добра, што не паспела, бо, атрымаўшы грошы, пасля кастрычніка 17-га яна б іх больш не ўбачыла?**

— Відаць, у гэтым ёсць нейкі рок, Божая воля. Але спадчына — гэта не галоўнае. Галоўнае — гісторыя. Аднавіць імя і выканаць волю гэтага чалавека, пра якога мы нават сёння не ўсё ведаем. У савецкі час з яго зрабілі змагара за правы бедных сялян, але, вядома, гэта аднабаковы погляд на падзеі таго часу.

На жаль, многія дакументы прапалі, падчас разбуральнай для Беларусі вайны многія сваякі загінулі. Ёсць некалькі адгалінаванняў ад яго роду. Некаторыя з нашчадкаў не цікавяцца гэтай праблемай. У Пецярбургу жыве праправраўнук Касцюшкі, які збірае гістарычныя звесткі. І неаднаразова ён звяртаўся да ўладаў, у тым ліку і беларускіх, але ўсюды сустракаў неразуменне.

**— Відаць, усе прывыклі думаць, нібыта Андрэй Тадэвуш Касцюшка — паляк?**

— Так. І таму ім гэта нецікава. Многія чыноўнікі не ведаюць гісторыі.

**— Ведаюць яе па чутках. Дарэчы, нас усіх так вучылі...**

— Зараз мы хочам пераправерыць усе звесткі, якія маюцца, параўнаць іх з матэрыяламі архіваў. Ужо атрымалі згоду на работу ў архівах Кракава, дзе пахаваны Касцюшка. Зараз буду пісаць ліст ад зямляцтва на Беларусь з просьбай аказаць садзейнічанне. Патрэбна скласці радавод, знайсці ўсе згубленыя звёны гэтага ланцужка. Наколькі дазволяць сродкі і магчымасці, сумеснымі намаганнямі будзе адноўлена агульная карціна. Гэта каласальная праца.

**— Ці згодзяцца ў Амерыцы перадаць беларусам такое салíднае «прывітанне» ад земляка, продка праз такі працяглы час?**

— Вядома, патрэбна дакументальнае абгрунтаванне, якое мы і шукаем. Ужо звярнуліся да юрыстаў Інюркалегіі, якія ведаюць амерыканскія законы, і атрымалі згоду дапамагчы нам.

**— Па ходу даследавання архіўных матэрыялаў, відаць, «усплыве» шмат карыснай інфармацыі, якая ці была невядома раней, ці скажалася за савецкім часам паводле ідэалогіі. Ужо зараз не ўзнікае жадання напісаць кнігу пра Касцюшку?**

— Гэта зрабіць трэба абавязкова, і ёсць чалавек, які напіша нармальную кнігу, у святле сучаснага бачання гісторыі. Адшукаем усіх сваякоў і аўтараў, якія пісалі пра Касцюшку раней. У іх ёсць унікальныя матэрыялы, але ранейшыя кнігі даводзілася рэдагаваць у палітычных мэтах.

**— Хочацца верыць, што сёння нашы палітыкі — людзі больш мудрыя, і нашчадкам славутага ўраджэнца Беларусі будзе крыху лягчэй.**

— Як бы там ні было, ведаць праўду патрэбна. І тым больш — пабудаваць на Беларусі бальніцу! Думаю, што лішняй яна не будзе, а справа, якую зробім, прынясе карысць многім людзям.

***Дарэчы, ад самога Аляксандра Андрэевіча я даведалася пра цікавую дэталь: ён нарадзіўся і жыве ў Маскве і спачатку лічыў сябе рускім, як і запісана ў пашпарце. А потым даведаўся, што бацькі — беларусы, што род ідзе ад Андрэя Тадэвуша... Свет за 200 гадоў пасля Касцюшкі змяніўся, але ж і сваякоў яго, напэўна, за гэты час стала больш. І калі кожны з іх, з нас будзе думаць і пра сваю спадчыну, і пра зямлю, адкуль «ёсць пайшоў», — напэўна, мы ўсе ў свеце нейкім чынам паразумеемся, а наша радзіма зойме «свой пачэсны пасад між народамі». Трэба толькі ўмець гаварыць праўду і слухаць адзін аднаго, каб не згубіцца ў вялізным свеце.***

**Таццяна СНІТКО.**

## Падманутыя ўкладчыкі спадзяюцца на крэдыт

**Беларускае аб'яднанне падманутых укладчыкаў падрыхтавала праект указа Прэзідэнта Беларусі, згодна з якім гэтая арганізацыя просіць крэдыт у памеры 6 млн. долараў ЗША тэрмінам на паўтара года.**

Пад крэдыт складзены бізнес-план. Кіраўнікі таварыства распрацавалі праекты кантрактаў з замежнымі фірмамі. Гаспадарчая дзейнасць па гэтых кантрактах павінна прынесці таварыству 60 млрд. рублёў чыстага даходу.

Гэта дазволіць цалкам пакрыць урон, нанесены падманутым людзям у час стварэння «фінансавых пірамід». Ужо сёння ў таварыстве падманутых укладчыкаў зарэгістраваліся больш за 16 тысяч грамадзян рэспублікі. Але гэта ўсяго толькі верхняя частка айсберга, бо толькі па Мінску ўзята на ўлік яшчэ 40 тысяч «пацярпеўшых». Усяго ж па рэспубліцы, нават паводле папярэдніх падлікаў, армія абрабаваных перавышае 100 тысяч чалавек.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Рабаўнікі раскідваюцца зброяй

**У нядзелю апоўдні ў Гродне на званок невядомых мясцовая жыхарка адчыніла дзверы...**

Трое мужчын пад пагрозай пісталета ўварваліся ў кватэру, збілі жанчыну, яе мужа і сына.

Пасля гэтага гаспадароў звязалі і пачалі выносіць з кватэры каштоўныя рэчы. Але хутка з'явіліся супрацоўнікі міліцыі, заўважыўшы якіх, злачынцы паспяшаліся ўцячы. Аднаго з іх удалося затрымаць. На месцы злачынства рабаўнікі пакінулі рэвальвер сістэмы «наган» без нумара з сямю патронамі і пісталет «парабелум» з шасцю патронамі. Вядзецца следства.

**Пётр РАБКАВЕЦ,** ***прэс-цэнтр МУС.***
**Сяргей ПРОТАС.**

ЧАЛАВЕК У НАВАКОЛЬНЫМ АСЯРОДДЗІ

# «НЯБЕСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ» І ПАЛІТЫКА

***У друку ўжо не раз прыводзіліся лічбы і факты, хто, якім чынам і ў якой колькасці забруджвае паветраны басейн Беларусі злучэннямі серы, вокісламі азоту і іншымі небяспечнымі выкідамі прамысловых прадпрыемстваў, транспарту, аб'ектаў сельскай гаспадаркі. Ратавацца ад гэтага «нашэсця», зразумела, дапамагаюць і выкананне заключаных нашай краінай міжнародных экалагічных канвенцый, міждзяржаўных дагавораў, і прымяненне жорсткіх нарматываў прыродаахоўнага заканадаўства, і эканамічныя санкцыі. Тым не менш, пыл і смог усё яшчэ адчувальна «акупіруюць» атмасферу над беларускімі абшарамі.***

***Што яшчэ можна зрабіць для больш надзейнага кантролю над шкоднай вытворча-экалагічнай з'явай? Свой пункт погляду на гэтае і іншыя пытанні выказвае намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандр АПАЦКІ.***

**— Прапаную, Аляксандр Мікалаевіч, адштурхнуцца ад вядомага параўнання: дыхае чалавек — дыхае прырода. Калі сучасная цывілізацыя не ў стане перашкодзіць забруджванню атмасферы, то, можа, большыя спадзяванні ўскладзём на прыродны, натуральны «фільтр», прызваны ачышчаць і абеззаражваць, скажам так, «кактэйль» з паветра, смогу і пылу?**

**Маюцца на ўвазе лясы — прыродныя лёгкія планеты. Вядомы і адначасова непрыемны для ўспрымання факт: самыя вялікія «лёгкія» Зямлі — лясы Амазоніі штогод скарачаюцца на дзесяткі тысяч гектараў. Што датычыцца лясоў Беларусі, то і ў нас маюцца на гэты конт дастаткова трывожныя факты, а менавіта: яшчэ нядаўна ў дзяржаўных структурах насіліся з «эканамічна-утапічнай» ідэяй — высекчы ў Бярэзінскім біясферным запаведніку (!) 100 тысяч кубаметраў лесу і прадаць за валюту. Найхарактэрнейшы, скажу я вам, прыклад эканамічнай неразважлівасці і адначасова антыэкалагічнай маралі.**

— Роля лясоў басейна ракі Амазонкі ў паветраным балансе планеты агульнапрызнаная. Як, дарэчы, і нашых запаведнікаў — Бярэзінскага, Прыпяцкага, Белавежскай пушчы: гэта «натуральныя лёгкія» не толькі Беларусі, але і ўсёй Еўропы. Статус жа Бярэзінскага біясфернага запаведніка, падкрэслю, — наогул статус сусветнага ўзроўню. Значыць, і ён, і іншыя прыродна-лясныя масівы (напрыклад, нацыянальныя паркі) павінны на дзяржаўным узроўні падтрымлівацца і эксплуатавацца ў разумных межах.

Догляд і падтрыманне такіх лясоў у патрэбным санітарным стане — гэта адно. А вось спробы «нарыхтоўкі» там дзелавой драўніны — гэта ўжо зусім з іншай, як кажуць, оперы, а менавіта — антыэкалагічнай.

Магу праінфармаваць: упамянёная вамі «ідэя» ўжо адкінута ўбок, пытанне аб 100 тысячах «тых самых» кубоў лесу з парадку дня канчаткова знята. Тут дапамаглі самыя розныя захады, у тым ліку і намаганні нашага міністэрства. Адыгралі сваю ролю, безумоўна, і стрымліваючыя рамкі прыродаахоўнага заканадаўства.

**— Няўжо сапраўды можна сказаць, што крытычная мяжа ў стане нашых лясоў ужо пяройдзена, што яна ў мінулым?**

— Пры ўсіх недахопах гэта сапраўды так — за апошнія гады становішча ўвогуле стабілізавалася: лесу ў Беларусі цяпер высаджваецца больш, чым высякаецца. Праўда, пакуль у нас маладога лесу больш, чым спелага, але ж і маладыя дрэвы ачышчаюць паветра. Калі і надалей будзем праводзіць разумную палітыку, то застанецца толькі пытанне часу — і праз 30—50 гадоў дастаткова з'явіцца і спелага будаўнічага лесу.

Перспектывы будуць тым лепшымі, што ім паспрыяе абноўленае экалагічнае заканадаўства. Сёння ў Беларусі дзейнічаюць пяць асноўных законаў прыродаахоўнай накіраванасці. Увесь блок, скажам так, экалагічнага кодэкса будзе складацца з 16 законаў. Большая частка іх праектаў ужо гатовая, разгледжана ў адпаведных камісіях Вярхоўнага Савета, некаторыя прайшлі і стадыю першага чытання. Яны, безумоўна, будуць прыняты — і закон аб ахове і выкарыстанні паветра, аналагічны закон па водных рэсурсах, па нетрах і г. д. Усё гэта, упэўнены, адразу адаб'ецца на паляпшэнні экалагічнай абстаноўкі ў Беларусі, у тым ліку — і атмасфернага асяроддзя.

**— А калі, Аляксандр Мікалаевіч, узняцца, вобразна кажучы, яшчэ вышэй, зазірнуць за аблокі? А там — азонавыя дзіркі, якія пастаянна пашыраюцца...**

— Па вырашэнню праблем азонавага слоя мне асабіста прыйшлося кантактаваць і з міжнароднымі арганізацыямі, з нашымі ўрадам і парламентам, і з галіновымі міністэрствамі. Вось цікавая інфармацыя: Рэспубліка Беларусь — адна з першых краін з пераходнай эканомікай, якая ад Глабальна-экалагічнага фонду (ГЭФ) пры ААН атрымлівае грант — бязвыплатную фінансавую дапамогу памерам у некалькі мільёнаў долараў. Прычым дабілася гэтага ў найвастрэйшай канкурэнтнай барацьбе з вялікай колькасцю краін. Расія, напрыклад, таксама атрымала дапамогу ад ГЭФ, аднак толькі ў адну трэць гранта. Не атрымалі грантаў ні Украіна, ні дзяржавы Балтыі, увогуле — ніхто з краін Усходняй Еўропы.

**— Навіна, зразумела, прыемная. Але чаму нас так палюбілі?**

— Я паставіў бы пытанне крыху інакш: чаму Беларусь у пэўнай ступені выдзелілі з лепшага боку з ліку астатніх краін? Толькі таму, што мы вельмі дакладна выконвалі палажэнні Венскай канвенцыі па ахове азонавага слоя Зямлі, у прыватнасці яе часткі — так званага Манрэальскага пратакола, у якім канкрэтна расшыфроўваюцца правілы па непрымяненню рэчываў, што гэты слой разбураюць.

**— Добра, па міжнароднаму гранту мільёны долараў нам пералічаць. Але ж і Беларусь, краіна, якая падпісала шэраг канвенцый, у сваю чаргу павінна плаціць узносы. А вось з доларамі ў нас — слабавата...**

— Так, у гэтым наш пасіў, тут пакуль у нас немалая запазычанасць. Па разнастайных канвенцыях і міжнародных дагаворах агульны доўг Беларусі складае 2,8 мільёна долараў. Праўда, можа здарыцца і так, што не ўсё прыйдзецца і выплачваць. Мы хочам, каб за кошт выканання нашай часткі міжнароднага праекта па вываду з вытворчасці азонаразбуральных рэчываў нам залічылі нашу запазычанасць па ўзносах і пагасілі яе. Адным словам, тут наша дзяржава вядзе гібкую палітыку, якая зыходзіць з уласных магчымасцей.

Наогул па праблеме атмасфернага азону і азонаразбуральных рэчываў у Беларусі пачалі працаваць даволі даўно. Прыкладна тры гады назад у рэспубліцы была распрацавана нацыянальная праграма з мэтай вываду такіх рэчываў з вытворчасці, каб наогул адмовіцца ад іх выкарыстання.

Гэта ж факт, што праблема азонавых дзірак у атмасферы не прайшла і міма Беларусі, бо яны з'яўляліся і ў нашым небе. Пасля радыяцыі Чарнобыля нам не хапала яшчэ і жорсткага радыяцыйнага выпраменьвання Сонца — праз гэтыя дзіркі яно і «дастае» нашу зямлю, людзей і ўсё жывое. Таму нашай святой справай было падтрымаць і Венскую канвенцыю, і Манрэальскі пратакол, а таксама — Лонданскія і Капенгагенскія папраўкі да гэтага пратакола.

Менавіта падтрымка Беларуссю Лонданскіх папраўак, ратыфікацыя іх нашым Вярхоўным Саветам далі нам магчымасць паказаць усяму свету пазіцыю рэспублікі ў гэтых важнейшых экалагічных праблемах. Яна, гэтая пазіцыя, атрымала станоўчую ацэнку міжнароднага супольніцтва, паслужыла і асновай рашэння аб выдзяленні нам гранта па лініі Глабальна-экалагічнага фонду — для фінансавання экалагічных праграм у самой Беларусі.

Аднак пасля ўсіх гэтых узнёсласцей мушу заявіць: рэспубліка магла б мець і куды большую фінансавую падтрымку з-за мяжы. Аднак не атрымала.

**— Выснова нечаканая. Аляксандр Мікалаевіч, тут яўна патрабуецца расшыфроўка.**

— Многае ўпіраецца ў старую чыноўніцкую псіхалогію — рэлікт былых часоў. Ці мала ў нас такіх, хто ў справе не разбіраецца, спецыяльных ведаў не мае, але, тым не менш, імкнецца «кіраваць». Не так ужо далёка адышлі ад такіх і некаторыя дэпутаты нашага парламента — абраныя туды тыя ж чыноўнікі: маўляў, калі спецыфікі прапанаваных праблем не разумею, то буду падыходзіць да іх з «пункту погляду падазронасці».

Менавіта так дзейнічалі некаторыя з іх і ў памянёнай сітуацыі: «Як гэта — капіталісты даюць нам нейкі грант, мільёны долараў? Хто і што за гэтым хаваецца? А таму — не дазваляць, не адабраць!»

Цяжка было, паверце, даказваць такім «усёзнайкам», што ў падобных спецыяльных пытаннях заўсёды трэба абапірацца на думку спецыялістаў, эколагаў-практыкаў, вучоных. Інакш можна напрымаць рашэнняў, якія нямала «здзівяць» астатні свет. Дзякуй, што ўвогуле Вярхоўны Савет падтрымаў нашы прапановы па лініі міжнароднага экалагічнага супрацоўніцтва, і рэспубліка канчаткова не засталася ў пройгрышы.

Таму я і кажу: кожнаму дзяржаўнаму чалавеку неабходна думаць пра валютаакупныя інвестыцыі ў нашу прамысловасць, прытым пра такія, якія ў далейшым не прыйдзецца вяртаць. Тут жа падкрэслю: тыя прадпрыемствы, якія ў вытворчасці выкарыстоўваюць азонаразбуральныя рэчывы, са сваімі таварамі на замежныя, асабліва заходнія, рынкі не выйдуць ніколі.

З гэтай нагоды нельга не сказаць колькі слоў пра аб'яднанне «Атлант», Мінскі завод халадзільнікаў. Там імкнуліся выконваць адпаведныя палажэнні Венскай канвенцыі, іншых падобных дакументаў — таму і атрымаюць асноўную частку гранта, прадастаўленага ГЭФ Беларусі. Поўнасцю на запланаваную праграму вытворцы пакуль не выйшлі, але на Захад яны пастаўляюць толькі сучасныя халадзільнікі — без азонаразбуральных газаў — фрэонаў, і шлях на заходні рынак такой прадукцыі адкрыты.

Гэта і ёсць прыклад разумнай доўгатэрміновай вытворча-экалагічнай палітыкі.

**Гутарыў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

**Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС сумесна з Каардынацыйным саветам па навуковаму забеспячэнню Дзяржаўнай праграмы пераадолення наступстваў катастрофы на ЧАЭС (тэл. 264-12-28)**

## аб'яўляе конкурс

**навуковых тэм, праектаў, прапаноў для ўключэння ў план навукова-даследчых работ на 1997—2000 гг. па наступных накірунках:**

### 1. Радыяцыйная абарона насельніцтва:

Дозавы маніторынг насельніцтва, ацэнка і прагноз калектыўных доз апраменьвання і рызыкі радыяцыйна-індуцыраваных захворванняў (220030, г. Мінск, прасп. Машэрава, 23, НДІ радыяцыйнай медыцыны).

Распрацоўка і аптымізацыя комплексу мераў па эфектыўнаму землекарыстанню і зніжэнню радыеактыўнага забруджвання сельскагаспадарчай прадукцыі, накіраваных на змяншэнне доз апраменьвання насельніцтва ***(220108, г. Мінск, вул. Казінца, 62, БелНДІ глебазнаўства і аграхіміі).***

Распрацоўка і ўдасканаленне тэхналогій і сродкаў дэзактывацыі, перапрацоўкі і захавання радыеактыўных адходаў ***(220109, г. Мінск, пас. Сосны, Інстытут радыеэкалагічных праблем АНБ).***

Распрацоўка і абгрунтаванне правядзення мерапрыемстваў па павышэнню абароненасці насельніцтва Беларусі ад радыяцыйнага ўздзеяння ў аднаўленчым перыядзе чарнобыльскай аварыі (НДІ радыяцыйнай медыцыны).

Распрацоўка комплекснай сістэмы ацэнкі і прыняцця рашэнняў па праблемах радыяцыйнай абароны насельніцтва, якое пражывае на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях (Інстытут радыеэкалагічных праблем АНБ).

### 2. Здароўе насельніцтва, якое пацярпела ад катастрофы на ЧАЭС:

Вывучэнне ўплыву радыелагічных наступстваў чарнобыльскай катастрофы на здароўе людзей, распрацоўка метадаў і сродкаў дыягностыкі, лячэння і прафілактыкі захворванняў у розных катэгорый пацярпеўшых (НДІ радыяцыйнай медыцыны).

Распрацоўка і ўкараненне ў практыку эфектыўных метадаў прафілактыкі і лячэння захворванняў маці і дзіцяці ва ўмовах радыяцыйнага становішча, якое склалася ў рэспубліцы ***(220053, г. Мінск, вул. Арлоўская, 66, корп. 8, БелНДІ аховы мацярынства і дзяцінства).***

Вывучэнне генетычных наступстваў, абумоўленых катастрофай на Чарнобыльскай АЭС, і распрацоўка эфектыўных мераў іх папярэджання ***(220053, г. Мінск, вул. Арлоўская, 66, корп. 8, НДІ спадчынных і прыроджаных захворванняў).***

Стварэнне эфектыўных лячэбна-прафілактычных сродкаў і харчовых дабавак для лячэння і рэабілітацыі пацярпеўшых у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (220012, г. Мінск, вул. Скарыны, 8, Навукова-даследчы санітарна-гігіенічны інстытут).

Аптымізацыя сістэмы мерапрыемстваў па захаванню здароўя пацярпеўшага насельніцтва і распрацоўка шляхоў павышэння яе эфектыўнасці (НДІ радыяцыйнай медыцыны).

### 3. Комплексная радыяцыйна-экалагічная ацэнка прыроднага асяроддзя, месцаў працы і пражывання насельніцтва

***(220141, г. Мінск, вул. Жодзінская, 2, Інстытут радыебіялогіі АНБ).***

### 4. Рэабілітацыя забруджаных тэрыторый:

Распрацоўка і аптымізацыя сістэмы кіравання сацыяльна-эканамічным развіццём тэрыторый, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, ва ўмовах пераходу рэспублікі да рыначнай эканомікі (220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2, Інстытут эканомікі АНБ).

Сацыяльная падтрымка і сацыяльна-псіхалагічная рэабілітацыя насельніцтва, якое пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2, Інстытут сацыялогіі АНБ).

Навуковае абгрунтаванне і распрацоўка комплексных праграм рэабілітацыі адміністрацыйных раёнаў на забруджаных тэрыторыях (246007, г. Гомель, вул. Фядзюнінскага, 16, НДІ радыялогіі МНА).

### 5. Пошукавыя даследаванні

***(220030, г. Мінск, вул. Леніна, 14, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС).***

### 6. Вопытна-канструктарскія, вопытна-тэхналагічныя работы і навукова-тэхнічныя праекты

***(220030, г. Мінск, вул. Леніна, 14, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС).***

### 7. Інфармацыйна-аналітычнае забеспячэнне навуковага раздзела Дзяржаўнай праграмы *(Інстытут радыебіялогіі АНБ).*

**Прапановы накіроўваць галаўным установам па вышэйназваных адрасах з паметкай «На конкурс». Прапановы прымаюцца да 15 верасня 1996 года.**
**ФОРМА ПРАДСТАЎЛЕННЯ: накіраванне ці суправаджальнае пісьмо, абгрунтаванне тэмы і яе штогадовых заданняў, каляндарны план выканання задання на 1997 год, калькуляцыя выдаткаў, звесткі аб кіраўніку і матэрыяльна-тэхнічнай базе, выпіска з рашэння вучонага савета аб разглядзе праекта ці тэмы.**

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» прыняў пастанову аб фарміраванні і выкарыстанні рэспубліканскага пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання ў 1996 годзе.

Прынятай пастановай зацверджана Палажэнне аб парадку фарміравання і выкарыстання ўказанага фонду.

Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў даручана забяспечыць своечасовае і ў поўным аб'ёме адлічэнне ўсімі юрыдычнымі асобамі нашай рэспублікі, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць, незалежна ад формаў уласнасці, за выключэннем калгасаў, саўгасаў і сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, міжгаспадарчых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацый, сельскагаспадарчых кааператываў, падсобных сельскіх гаспадарак прадпрыемстваў і арганізацый і іншых сельскагаспадарчых фарміраванняў, а таксама прадпрыемстваў спажывецкай кааперацыі, сродкаў у рэспубліканскі пазабюджэтны фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання, а Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання і Міністэрству фінансаў — кантроль за мэтавым выкарыстаннем указаных сродкаў. Гэтай жа пастановай Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам эканомікі па меры накаплення сродкаў у рэспубліканскім пазабюджэтным фондзе падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання дадзена даручэнне ўносіць у Кабінет Міністраў прапановы па мэтаваму выкарыстанню гэтых сродкаў згодна з дадаткам 1 да Закона «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год».

❑

Кабінет Міністраў у сувязі з прыняццем Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» прынятай пастановай зацвердзіў пералік выробленых суб'ектамі гаспадарання нашай рэспублікі харчовых тавараў, пры рэалізацыі якіх прымяняецца стаўка падатку на дабаўленую вартасць у размеры 10 працэнтаў;

пералік прадуктаў харчавання і тавараў, пры ўвозе якіх на тэрыторыю нашай рэспублікі прымяняецца стаўка падатку на дабаўленую вартасць у памеры 10 працэнтаў.

Прызнаны страціўшымі сілу:

абзац чацвёрты пункта 1 пастановы Кабінета Міністраў ад 5 верасня 1995 г.№484 «Пытанні спагнання падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г.,№ 25, арт.630);

пастанова Кабінета Міністраў ад 15 верасня 1995 г. №513 «Пытанні спагнання падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 26, арт.650; 1996 г., № 4, арт.95).

❑

Кабінет Міністраў пастанавіў у назве і ў пунктах 1 — 5 раней прынятай пастановы ад 27 чэрвеня 1996 г. № 424 «Аб парадку выплаты падатку на прыбытак і падаходнага падатку пры рэалізацыі тавараў (работ, паслуг) за наяўны разлік праз рознічную гандлёвую сетку, а таксама на рынках, кірмашах, выстаўках-продажах» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 18, арт.447) слова «рознічную» замяніць словам «дробнарознічную».

❑

Кабінет Міністраў у адпаведнасці з Генеральным пагадненнем паміж Кабінетам Міністраў, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў на 1996 год прынятым распараджэннем даручыў Мінпрацы зацвердзіць Тыпавое палажэнне аб навучанні, інструктажы і праверцы ведаў работнікаў па пытаннях аховы працы.

Гэтым жа распараджэннем створана рэспубліканская камісія для праверкі ведаў кіраўнікоў і членаў камісій міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання па пытаннях аховы працы пад старшынствам першага намесніка міністра працы В.Паўлава.

Прапанавана абласным, Мінскаму гарадскому выканкомам стварыць адпаведныя камісіі па гэтых пытаннях.

❑

Кабінет Міністраў прынятай пастановай зацвердзіў апісанне Дыплома і нагруднага знака лаўрэата прэміі Кабінета Міністраў у галіне дызайну.

**БЕЛТА.**

## «Для некаторых сродкаў масавай інфармацыі ўказ Прэзідэнта стане сур'ёзнай падтрымкай. Іншым жа давядзецца думаць, як выжыць»

**Як паведаміў карэспандэнту весніка БЕЛТА «У кабінетах улады» начальнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл ПАДГАЙНЫ, зараз Дзяржкамітэт па друку рыхтуе праект указа Прэзідэнта «Аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі».**

— Гаворка вядзецца ў першую чаргу аб зніжэнні падатковай нагрузкі на дзяржаўны друк, і перш за ўсё раённы, — адзначыў Міхаіл Падгайны. — Акрамя таго, ва ўказе прапаноўваецца ўвесці дыферэнцыраваны падыход да падтрымкі СМІ, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

Семінар рэдактараў мясцовых выданняў, які прайшоў у Акадэміі кіравання, паказаў, што становішча гарадскіх і раённых газет рознае — асобныя з іх існуюць бязбедна. Іх тыраж пры падтрымцы мясцовых адміністрацый дазваляе працаваць з прыбыткам. І ўсё ж большая частка друкаваных выданняў — на датацыі органаў мясцовай улады. Аднак размова аб іх закрыцці не вядзецца, бо агульны сумарны тыраж гарадскіх і раёных газет у дзесяткі разоў перавышае самыя тыражныя рэспубліканскія выданні, таму ў праекце ўказа цэлы раздзел адводзіцца падтрымцы менавіта раённага і гарадскога друку. Па словах М. Падгайнага, мяркуецца выкарыстанне для іх фінансавання як бюджэтных, так і пазабюджэтных фондаў мясцовых адміністрацый. Плануецца зніжэнне падатковага цяжару ці нават вызваленне ад яго раённых і гарадскіх газет. Акрамя вышэйсказанага, праектам прадугледжваецца матэрыяльна-тэхнічнае і інфармацыйнае забеспячэнне мясцовага друку. Апошняе мае на мэце неабходнасць уключэння яго ў адзіную інфармацыйную сетку рэспублікі.

Што датычыцца рэспубліканскага друку, распрацоўваюцца розныя варыянты — магчымасць даціравання ў пэўнай ступені тых ці іншых выданняў (прычым гэта павінна быць прыведзена ў адзіную сістэму), разглядаюцца пытанні падатковай падтрымкі.

— Для многіх сродкаў масавай інфармацыі прэзідэнцкі ўказ стане сур'ёзнай падтрымкай, а некаторым давядзецца думаць, як выжыць, — адзначыў кіраўнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта. — Дыферэнцыраваны падыход да падтрымкі перыядычных выданняў дапаможа ўстанавіць, нарэшце, парадак. Нельга лічыць нармальнай сітуацыю, калі тыраж часопіса менш за дзве тысячы экземпляраў, а штат супрацоўнікаў — больш за дваццаць чалавек. Пры гэтым дзяржаўная падтрымка дасягае 90 працэнтаў ад агульных расходаў на выпуск выдання. Не выключаю, што асобным газетам і часопісам давядзецца аб'ядноўвацца і шукаць спонсара, каб захаваць выданне. Інакш кажучы, калі вы сёння хочаце добра зарабляць — зарабляйце і атрымлівайце яшчэ больш, калі вы зарабляеце мала — імкніцеся зрабіць выданне папулярным і даходным. Гэта — альфа і амега распрацоўваемых мераў па паляпшэнню стану і падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі.

Міхаіл Падгайны паведаміў, што праект указа Прэзідэнта «Аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі» будзе ўнесены на разгляд кіраўніка дзяржавы ў верасні гэтага года.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ**
**(Веснік БЕЛТА «У кабінетах улады»).**

*НАПЯРЭДАДНІ*

## Рыхтуемся да навучальнага года

**Лета — пара адпачынку з яго цёплымі, а часам і не вельмі, дзянькамі ўжо на зыходзе. Хутка ў свае правы ўступіць восень, а разам з ёй пачнецца новы навучальны год. Калі вы яшчэ не паспелі падрыхтаваць да гэтага адказнага перыяду вашых дзяцей, або не паспелі падрыхтавацца самі (хто асабіста гэтым займаецца), то параіў бы вам часу дарэмна не губляць.**

Зразумела, выбар школьных прыналежнасцей сёння значна багацейшы, чым, скажам, дзесяць гадоў таму: акрамя айчынных на паліцах магазінаў ляжаць і фірменныя тавары, няма ніякага намёку на чэргі ў нашым разуменні гэтага слова, аднак... Аднак цэны «кусаюцца», і калі вашы сродкі строга лімітаваныя, давядзецца пабегаць не адну гадзіну, каб набыць рэчы неабходнай якасці і па цане, якая вас задаволіць. Я ж вазьму на сябе клопат «маральна» падрыхтаваць вас да прыкладных памераў сумы, з якой вам давядзецца развітацца.

Пачнём з «ёмістасці», у якую складваюць усе школьныя прылады — ранца. Трэба сказаць, што ад такой колькасці гэтых самых ранцаў усіх магчымых формаў, памераў і афарбовак разбягаюцца вочы і круціцца галава. Вярнуць на зямлю вас зможа хіба іх кошт — 102—300 тысяч рублёў. Калі гэта не адаб'е ў вас жадання рабіць такія пакупкі, ёсць сэнс набыць тое, чым пішуць, і тое, на чым пішуць: агульны сшытак з 96 лістоў у «мяккай» вокладцы (з іншай не знайшоў) каштуе 8800 рублёў, столькі ж каштуе сшытак з 48 лістоў, але ўжо ў цвёрдай вокладцы. Сшыткі з 16 лістоў (і ў клетачку, і ў лінеечку) абыдуцца вам у 1800 рублёў штука. Шарыкавыя ручкі каштуюць ад 2,5 да 15 тысяч, капілярныя — 15—25 тысяч, чарнільныя — 15—36 тысяч. Маленькі шарыкавы стрыжань абыдзецца ў 800 рублёў, вялікі — у 1000. Калі ў вашага дзіцяці «прэтэнзія на геніяльнасць» у выяўленчым мастацтве або ён вымушаны наведваць урокі малявання, дадайце да ўжо патрачаных вамі грошай 16 тысяч на альбом для малявання, 1000—3900 — за просты аловак, 20—98 тысяч «зайцоў» — за каляровыя алоўкі (у залежнасці ад колькасці і фірмы-вытворцы), 2100 рублёў — за тачылку, 78.400 — за прыстойны набор фламастэраў (у камерцыйнай краме можна набыць значна танней, але гарантый якасці — ніякіх), 13.700 рублёў — за гуаш ці 175.500 — за нейкія амаль «прафесіянальныя» фарбы і 2200—2800 — за пэндзлік. Займаецца дзіця мастацкай аплікацыяй — калі ласка! — каляровая папера 6500—8800 «зайцоў», каляровы кардон — 5200—8600 рублёў, клей-аловак — 7200—47.000, дзіцячыя нажніцы — 5900 рублёў. Калі ў вашага нашчадка цяга да музыкі (не палохайцеся, цэны на музычныя інструменты друкаваць не будзем), нотны сшытак абыдзецца вам у 2300—2900 «зайцоў», калі ж ён (або яна) збіраецца стаць архітэктарам ці інжынерам, а зараз старанна практыкуецца ў чарчэнні, прыйдзецца набыць блок для чарчэння — 17.600—31.600 рублёў, лінейку — 2200—5200 «зайцоў», транспарцір — 4600—6500 рублёў, набор цыркуляў — 58.500—104.000. Сёння ўжо цяжка ўявіць урокі матэматыкі без вылічальных машынак — калькулятары ў розных магазінах каштуюць ад 50 да 470 тысяч рублёў (у камерцыйных крамах можна набыць танней, зноў-такі ахвяраваўшы якасцю і гарантыяй), ну а калі кішэня зусім ужо пустая, прыйдзецца задаволіцца дзіцячымі лічыльнікамі (усяго 26.000 «зайцоў»).

Ледзь не забыўся! У чым жа будзе прыносіць ваш вучань адзнакі за старанную вучобу? Дзённік — «твар вучня» каштуе сёння 6500—7200 рублёў. Улічваючы невялікі кошт гэтага вельмі неабходнага дакумента і тое, што некаторыя прадпрымальныя вучні заводзяць два дзённікі (на заметку бацькам): адзін — для добрых адзнак, другі — для ўсіх астатніх, попыт на іх забяспечаны. Дарэчы, сшыткі, кнігі і дзённік у мэтах іх найлепшага захавання можна абгарнуць: вокладкі каштуюць 300, 3500 і 2900 рублёў адпаведна. Удачных пакупак!

**Сяргей ПРОТАС.**

## Ад Падкамітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

**Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года дапушчаны наступныя работы:**

***У галіне літаратуры:***

**1. МАКАЛОВІЧ І. П.**
**Кніга публіцыстыкі «О, як далёка нам яшчэ да Беларусі».**
Прадстаўлена Беларускім камітэтам міру.

**2. САБІНА П. І.**
**Экалагічная дылогія «Плач вады».**
Прадстаўлена Беларускім фондам культуры.

**3. КУПРЭЕЎ М. С.**
**Кніга вершаў «Правінцыйныя фантазіі».**
Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**4. ЯГОЎДЗІК У. І.**
**Кнігі апавяданняў для дзяцей і юнацтва «У царстве Вадзяніка» і «Дзівосны карабель».**
Прадстаўлены Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**5. ДАЛІДОВІЧ Г. В.**
**Раман «Заходнікі».**
Прадстаўлены Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**6. КАЗЛОВІЧ А. М.**
**Кніга мастацкай публіцыстыкі «Если бы да кабы».**
Прадстаўлена Беларускім літаратурным фондам.

**7. ЧАРГІНЕЦ М. І.**
**Раманы «За секунду до выстрела» і «Илоты безумия».**
Прадстаўлены Беларускім літаратурным фондам.

**9. СТОМА В. І.**
**Кніга для дзяцей і юнацтва «Гаспадар таямнічых віроў».**
Прадстаўлена Пярвічнай арганізацыяй Беларускага Саюза журналістаў г. п. Карэлічы.

***У галіне мастацтва і архітэктуры:***

**1. ЕЛІЗАР'ЕЎ В. М., МДЗІВАНІ А. Ю. ПРАВАТОРАЎ Г. П., ОКУНЕЎ В. А., ДУШКЕВІЧ І. А., ФАДЗЕЕВА К. Ю., ЗАХАРАЎ В. М., ДАЎГІХ У. В.**
**Балет «Страсці» (Рагнеда)**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**2. ФІНБЕРГ М. Я.**
**Канцэртныя праграмы 1992—1995 гадоў.**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**3. ДАМАРАЦКІ У. А.**
**Другі канцэрт для трубы з аркестрам.**
Прадстаўлены Саюзам кампазітараў Беларусі.

**4. ЗАЛЕТНЕЎ А. Б., БЕЛЬЦЮКОЎ С. П., ШУТ А. А.**
**Канцэртная праграма беларускай духоўнай музыкі («Усяночная» і «Літургія св. Іаана Златавуста»).**
Прадстаўлена ўпраўленнем культуры і інфармацыі Мінскага аблвыканкома.

**5. ГАЯВАЯ В. І.**
**Пастаноўкі «Па старонках Полацкага сшытка» і «Бывай 20-е стагоддзе».**
Прадстаўлена Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**6. ТАРАСАЎ С. В., ШАВЯЛЕВІЧ В. В., ВАСІНЕЎСКІ У. Ф., СІМАКОВІЧ Л. В.**
**Мастацкія фільмы «Прыйдзі і віждзь», «Пастка для зубра. Ягайла», «Пастка для зубра. Вітаўт».**
Прадстаўлены Цэнтралізаванай сістэмай дзяржаўных масавых бібліятэк г. Мінска.

**7. БАСАЎ В. Р., ЗАЯЦ І. Ф.**
**Дакументальны фільм «Імгненні радасці».**
Прадстаўлены Беларускім Саюзам кінематаграфістаў.

**8. ТУРАЎ В. П.**
**Цыкл мастацкіх фільмаў «Высокая кроў», «Чорны бусел», «Шляхціц Завальня».**
Прадстаўлены кінастудыяй «Беларусьфільм».

**9. МАРЧУК Г. В., ЦІТОЎ В. А., СПАРЫШКОЎ У. П., ЗАЙЦАЎ Д. Я.**
**Мастацкі фільм «Кветкі правінцыі».**
Прадстаўлены грамадскасцю г. Давыд-Гарадка.

**10. АРЦІМОВІЧ А. Я., ІНЬКОЎ М. М., КАНЦАВЫ М. П., РЫБАКОЎ В. В.**
**Помнік Аляксандру Гараўцу ў г. Віцебску.**
Прадстаўлены Беларускім Саюзам мастакоў.

**11. КРЫВАБЛОЦКІ У. В.**
**Мазаічнае пано «Дрэва жыцця» ў г. Салігорску.**
Прадстаўлена Беларускім Саюзам мастакоў.

**12. КІШЧАНКА А. М.**
**Манументальны габелен «Габелен стагоддзя».**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**13. САВІЦКІ М. А.**
**Цыкл жывапісных твораў «Чорная быль».**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**14. БАРАНОЎСКІ А. В.**
**Цыкл жывапісных твораў «Далягляды бацькаўшчыны».**
Прадстаўлены Беларускай акадэміяй выяўленчага мастацтва.

**15. ІВАНЧАНКА Ф. М., САХНО В. І., КАЗАКОВА П. К., ЗОРЫН І. С., СЕРДЗЮКОЎ Ю. І., ВАРАБ'ЁЎ А. А., ПАТАПАЎ Ю. Ф., ЯРУШЫН А. І.**
**Архітэктурны ансамбль цэнтра горада Салігорска.**
Прадстаўлены Беларускім Саюзам архітэктараў.

Камітэт па дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь звяртаецца да кіраўнікоў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, творчых саюзаў і прафесійных аб'яднанняў, міністэрстваў і ведамстваў з просьбай правесці грамадскае абмеркаванне ўказаных работ і аўтарскіх калектываў.

Водзывы, матэрыялы абмеркаванняў, прапановы і заўвагі па работах і аўтарскіх калектывах просьба накіроўваць у Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры да 15 кастрычніка 1996 года па адрасу: ***220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2, пакой 412, тэл. 268-53-81.***

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ*

## УЗБРОЕНАЕ РАБАВАННЕ Ў ЦЭНТРЫ МІНСКА

**Яшчэ адзін выпадак узброенага рабавання адбыўся ў аўторак ноччу ў Першамайскім раёне Мінска. На гэты раз мэтай злачынцаў было адно з прыватных прадпрыемстваў горада, што размешчана на праспекце Скарыны.**

Рабаўнікі выбралі не зусім звычайны шлях пранікнення ў будынак прадпрыемства — вентыляцыйны люк. Дзейнічалі ноччу, таму акрамя вартаўніка, якога злачынцы пад пагрозай зброі звязалі, ажыццяўленню іх планаў ніхто не замінаў. Здабычай сталі радыёапаратура, камп'ютэр, тэлефакс, тэлефонныя апараты, калькулятары і 50 мільёнаў рублёў. Вядзецца следства.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ВЫМАГАЛІ 6 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ

**Такая заганная з'ява нашай рэчаіснасці, як арганізаваная злачыннасць і яе галіна — рэкет занялі сваё месца ў крымінальным жыцці.**

Рэкеціры — нелегальныя зборшчыкі падаткаў у адрозненне ад дзяржаўных не ўпускаюць ніводнай крыніцы магчымага даходу. Аднак і ў іх бываюць «праколы».13 жніўня ў Полацку на вуліцы Зыгіна супрацоўнікі міжраённага аператыўна-вышуковага аддзела ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю па вобласці затрымалі двух мясцовых жыхароў. Полацкія рэкеціры вымагалі 6 тысяч долараў ЗША. У непрацуючага..

**Пётр РАБКАВЕЦ,**
**прэс-цэнтр МУС.**

## З АСАБЛІВАЙ ЖОРСТКАСЦЮ...

**Судовая калегія па крымінальных справах Гомельскага абласнога суда на працягу тыдня разгледзела крымінальную справу па абвінавачанню Мікалая Валявачава, які ўчыніў наўмыснае забойства пры абцяжваючых абставінах. На яго сумленні і шэраг іншых цяжкіх злачынстваў.**

Да таго як яму споўнілася 47 гадоў, Мікалай меў ужо шэсць судзімасцей. І апошні раз быў асуджаны судом Руднічнага раёна Кемераўскай вобласці за цяжкія злачынствы да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Адбыўшы пакаранне і прыехаўшы ў Гомель, Валявачаў зноў прымаецца за ранейшую «справу» — працягвае п'янстваваць, нідзе не працуе. А для п'янства патрэбны грошы. Таму ён разам з В. Клімовічам, па папярэдняй змове, 29 студзеня г. г. напалі на Е. Іпатаву, знялі з яе залатыя завушніцы коштам больш за 1,5 мільёна рублёў. Потым учынілі махлярства.

І пайшло «вясёлае» жыццё. Папойкі і скандалы М. Валявачава з яго сужыцелькай А. Сырыська пачасціліся. П'яны бамбіза часта збіваў жанчыну. Здаралася, што з-за пабояў яна нават не магла хадзіць на работу.

У той трагічны дзень п'яніца знаходзіўся ў доме сужыцелькі. Як толькі гаспадыня вярнулася з работы, М. Валявачаў распачаў сварку, потым пачаў яе жорстка збіваць рукамі, нагамі і абухом сякеры. У выніку пацярпеўшай было нанесена каля паўсотні ўдараў, ёй пераламаў амаль усе рэбры. А. Сырыська сканала на месцы.

Забойцу назначана мера пакарання ў выглядзе 15 гадоў пазбаўлення волі.

**Міхаіл КАЧАНАЎ,**
**старшы саветнік юстыцыі, пракурор аддзела пракуратуры Гомельскай вобласці.**

## ПАКВАПІЛІСЯ НА «ГАРАЧАНЬКАЕ»

**У непрыемную гісторыю трапіў шафёр акцыянернага таварыства «СаўаўтаСмаленск» жыхар горада Смаленска.**

Ноччу на дарозе недалёка ад горада Талачына яго аўтамашыну «МАЗ» спынілі трое невядомых, адзін з якіх быў апрануты ў форму супрацоўніка міліцыі новага ўзору. Незнаёмцы хуценька звязалі няўдачлівага шафёра і на яго машыне ўцяклі. У кузаве «МАЗа» знаходзілася 157 электрапліт італьянскай вытворчасці.

Нікога не хачу крыўдзіць, але новая міліцэйская форма на дарозе не валяецца...

**Сяргей ПРОТАС.**

БЕЛАРУСЫ РАСІІ

## Мікалай СТАЛЯРОЎ: «Інтэграцыя і незалежнасць для Беларусі — майстэрства прайсці паміж Сцылай і Харыбдай...»

**Мікалай СТАЛЯРОЎ — дэпутат расійскай Дзяржаўнай Думы, намеснік старшыні думскага Камітэта па міжнародных справах. Член сумеснага беларуска-расійскага парламенцкага сходу, дзе з'яўляецца намеснікам старшыні пастаяннай Камісіі па абароне, бяспецы і барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Генерал-маёр авіяцыі і прафесар паліталогіі. У свой час разам з М. Гарбачовым вылучаўся на пост Генсека КПСС, быў намеснікам старшыні КДБ СССР, памочнікам міністра абароны, саветнікам Старшыні Вярхоўнага Савета... Калі ж меркаваць не па пасадах, а па канкрэтных дзеяннях — адзін з тых, хто ў розныя гады імкнуўся захаваць цэласнасць Саюза, вёў перамовы з путчыстамі і прыпыніў увод войскаў у Маскву, дапамагаў вызваляць заложнікаў у Закаўказзі і Малдове, папярэджваў аб наступствах баявых дзеянняў на пачатку вайны ў Чачні, ініцыіраваў галасаванне Думы за адстаўку П. Грачова...**

Калі шчыра, ваенных я заўсёды лічыла людзьмі без пэўнага, канкрэтнага адчування радзімы. Паколькі Мікалай Сталяроў нарадзіўся ў пасляваеннай Беларусі, на Гомельшчыне — натуральна, што наша гутарка пра лёс Бацькаўшчыны пачалася з гэтага...

***— Мікалай Сяргеевіч, скажыце, калі ласка, прайшоўшы столькі прыступак дзяржаўнай улады, Вы адчуваеце сябе расіянінам ці беларусам?***

— Дзякуй за нечаканае пытанне. Я і сам вымушаны задумацца. Я скажу, што адчуваю сябе чалавекам, у якога ёсць Айчына. Так ужо склалася для мяне і многіх маіх калег, што жывуць у Расіі. Для мяне Расія і Беларусь — адзіная прастора. Сацыякультурная, эканамічная, палітычная. На Беларусі я нарадзіўся і вырас, там пахаваны мае бацькі, сваякі... Калі я прыязджаю да сваіх блізкіх, у мяне ні ў думках, ні ў падсвядомасці няма такога адчування, што я знаходжуся ў чужой для мяне краіне. Беларусь і Расія не могуць жыць адна без адной, ды і не хочуць людзі жыць адасоблена...

***— Сёння на маскоўскіх вуліцах я размаўляла з незнаёмымі людзьмі. Уражанне: пэўная частка расіян бачыць Беларусь правінцыяй у саставе Расіі. Ды і ў Беларусі розныя погляды існуюць на інтэграцыю. Я думаю, эканамічнае супрацоўніцтва — гэта было б карысна, але ці не будзе заадно нанесены ўрон беларускай мове, культуры, якія і так у заняпадзе?***

— Я не думаю, што магчыма ўтварэнне адзінай дзяржавы. У гэтым няма неабходнасці ні для Расіі, ні для Беларусі. Я бачу негатыўныя наступствы такога аб'яднання на дзяржаўным узроўні: будзе згублена самабытнасць, самастойнасць, адбудзецца тое, пра што вы гаворыце ў сваім пытанні. Калі мы ўжо «разбегліся» (іншае пытанне, ці трэба было гэта рабіць), дзяржаўнасць кожнага з новых дзяржаўных утварэнняў патрэбна ўмацоўваць і развіваць з улікам нацыянальных асаблівасцей, культуры, традыцый. Па меры таго як будзе адраджацца гэтая дзяржаўнасць, можна весці гаворку пра інтэграцыю. У гэтых пытаннях не трэба паспешлівасці. Усё павінна выспець і ісці сваім парадкам. Думаю, калі кожная з дзяржаў выйдзе з эканамічнага тупіка, можна будзе весці гаворку пра больш цеснае канфедэратыўнае ўладкаванне. Стварэнне беларуска-расійскай супольнасці — мне здаецца, сур'ёзны пазітыўны крок у гэтым напрамку. Калі гэта садружнасць дасць плён ва ўзбагачэнні эканомікі, культур, калі людзі ў сацыяльнай сферы адчуюць вынік гэтага супрацоўніцтва, гэта будзе вялікай прыцягальнай сілай для іншых рэспублік. Гэта як сям'я, дзе дарослыя дзеці набываюць самастойнасць, а потым усё роўна вяртаюцца ў бацькоўскі дом.

Хачу падкрэсліць, што ў пытаннях інтэграцыі патрэбна разумная мера. Ізаляванасць кожнага з дзяржаўных утварэнняў ні да чаго добрага не прывядзе, але і гвалтоўная, штучная інтэграцыя насуперак эканамічным патрэбам, волі людзей таксама не дасць станоўчых вынікаў.

Сёння на Беларусі ўжо шмат партый і рухаў вельмі дбайна ставяцца да сваёй нацыянальнай самабытнасці. Калі гэтая энергія накіроўваецца ў разумнае рэчышча, не бачу ў гэтым нічога дрэннага. Наадварот, Беларусь можа ганарыцца сваёй культурай, гістарычнымі каранямі, нацыянальным характарам. Прынята лічыць, што беларусы — людзі моцныя, цвёрдыя і адначасова добрыя, мяккія. Ніколі нідзе не чуў кепскага слова пра беларусаў. Наадварот, калі даведваюцца, хто я, нават дадатковую павагу адчуваеш ад таго, што нарадзіўся ў такой цудоўнай рэспубліцы.

***— Пытанне на лірычную тэму: наконт беларускай мовы і духоўнай повязі з радзімай...***

— Я люблю беларускую мову, люблю рамансы, вершы Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы. Але гэта складанае пытанне — пра мову. Бяда ў тым, што беларусы на чыста беларускай мове мала размаўляюць. Я бачу вялікае мноства дыялектаў. У маёй роднай вёсцы Аляксандраўцы па-беларуску гавораць зусім па-іншаму, чым у Малых Аўцюках, якія знаходзяцца літаральна ў 150 метрах. Мову трэба рабіць чыстай, тады яна будзе радаваць і слых, і сэрца. Нічога няма страшнага, калі людзі размаўляюць на некай помесі моў... Дрэнна, вядома, што беларуская мова на нейкім этапе існавання нашай ранейшай дзяржаўнасці аказалася не ў пашане. Але фарсіраваць гэты працэс, я думаю, не трэба... Я рады, што знойдзена рашэнне, калі беларуская і руская мовы маюць у мяне на радзіме роўныя правы.

***— Правы гэтыя, на жаль, пакуль толькі на паперы, з Масквы гэтага не бачна. Давайце зменім тэму...***

— Я хацеў бы яшчэ сказаць пра мову. Мова адносіцца да сферы грамадскай свядомасці і псіхалогіі, якія не існуюць па-за эканамічнымі сувязямі. Калі гэтыя сувязі будуць узаемакарыснымі, то і мова будзе развівацца адпаведна. Гэта павінен быць адзіны працэс. Патрэбна разумная палітыка ў галіне культуры, і ў апошні час я бачу, што такая палітыка праводзіцца.

***— Ну, няхай так. Дзякуй. Лепш вось аб чым: яшчэ задоўга да падпісання ўсіх пагадненняў даводзілася чуць, што Беларусь будзе для Расіі «каменем на шыі». Наколькі, на Вашу думку, гэта слушна?***

— Гэта меркаванне дылетантаў, людзей неглыбокіх. Інтэграцыя патрэбна і Расіі, і Беларусі перш за ўсё з пункту гледжання эканамічнай мэтазгоднасці. Беларусь — гэта цэласны народнагаспадарчы комплекс, на шчасце, не разбураны дашчэнту. Ёсць многія камплектуючыя дэталі — скажам, для патрэбаў ваеннай прамысловасці, электронікі, іншых важнейшых відаў вытворчасці. Напрыклад, у маёй выбарчай акрузе ў Падмаскоўі ёсць завод паліўнай апаратуры, які выпускае фарсункі для паліўных помпаў. Гэта прадукцыя неабходна Беларусі, якая выпускае трактары. Няўжо краіны павінны ствараць свае заводы, калі можна купляць патрэбныя дэталі ці на нешта абменьваць адна ў адной? Гэта ўсяго адзін прыклад... Беларусы ніколі не былі ні гультаямі, ні нахлебнікамі, і гаварыць так — значыць крыўдзіць і рускі, і беларускі народ.

***— Мікалай Сяргеевіч, прабачце, я ўсё яшчэ пад уражаннем сённяшніх размоў з масквічамі. Сёй-той кажа, між іншым, пра Каўказ: няхай бы лепш аддзяляўся... Вы як генерал-маёр і філосаф што на гэты конт можаце сказаць?***

— Я быў неаднойчы на Каўказе. Падабаецца гэта камусьці або не, мы асуджаны жыць разам. Мы асуджаны на добрасуседства. Каўказ — гэта багата палітая крывёю расіян тэрыторыя, яна склалася гістарычна. Куды Чачня можа аддзяліцца? Геаграфічна гэта цяжка ўявіць. Тое, што здарылася ў Чачні, — наглядны ўрок недапушчальнай крайнасці ў палітыцы, рашэнняў без прагнозу іх наступстваў. Чачня павінна стаць горкім урокам і для Расіі, і для Беларусі, дарэчы, і для ўсіх дзяржаў, што ўтваралі некалі адзіную прастору. У самастойнасці, як і ў інтэграцыі, таксама ёсць разумныя межы... Вось Чачня якраз занадта рэзкі курс узяла на адасобленасць, аддзяленне ад Расіі. Гэта і парадзіла ўнутраныя супярэчнасці ў самой Чачні... «Тайнік», вобразна кажучы, «спеў», але яго лічылі за лепшае не заўважаць, пакуль не спатрэбілася вырашаць праблему ваеннымі сродкамі. Але я лічу, што не ўсе меры дыпламатычнага характару выкарыстаны поўнасцю. (Размова адбывалася яшчэ да штурма Грознага. — Т. С.). Паглядзіце, паўсюль на свеце канфлікты — войны за захаванне цэласнасці дзяржавы. Гэта не пусты гук! Вядома, адзінства Айчыны трэба ўмацоўваць, але не штыкамі. Думаю, што ў Чачні знойдуць разумны кампраміс паміж інтарэсамі дзяржавы і інтарэсамі людзей. Без кампрамісу праблему не вырашыць.

***— Ці не стане Беларусь дапамагаць Расіі ваяваць?***

— У Чачні?

***— Так.***

— Думаю, да таго часу, калі пытанне аб поўнай інтэграцыі будзе вычарпана, будзе вырашана і чачэнская праблема. Чачня — гэта праблема сённяшняга дня, а інтэграцыя Расіі і Беларусі — доўгі гістарычны працэс. Тым больш, што пакуль і не ставіцца пытанне аб вайсковай інтэграцыі.

***— Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ужо прыняў закон аб удзеле беларусаў у войнах па-за яе межамі. У асобных выпадках, са згоды Вярхоўнага Савета. Але, напэўна, ёсць падставы для засцярогі?***

— Мы гаварылі з вамі пра самастойнасць, нацыянальную самабытнасць, дзяржаўнасць як пра з'яву, што дае толькі правы. Але не бывае правоў без абавязкаў. Калі народ Беларусі вырашыў мець сваю дзяржаву, то трэба вызначыцца, дзе межы геапалітычных інтарэсаў Беларусі. Магу выказаць свой асабісты пункт гледжання. У Беларусі і Расіі гэтыя інтарэсы супадаюць. Гэта тая прастора, якую мы называлі Савецкім Саюзам, а нашы прадзеды — Расіяй. Калі беларускі парламент прыняў такі закон, ён, вядома, глядзіць у будучыню. Не думаю, што ён прыняты ў сувязі з нейкім чакаемым або адбыўшымся прэцэдэнтам, гэта нармальнае рашэнне, яно мае права быць у кожнай дзяржаве, якая павінна быць гатова адстаяць свае інтарэсы ў выпадку пагрозы яе бяспецы, цэласнасці.

***— Мікалай Сяргеевіч, Вы ўваходзіце ў сумесны беларуска-расійскі парламент як адзін з кіраўнікоў Камісіі па абароне, бяспецы і барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Якімі метадамі збіраецеся змагацца са злачынцамі? Што трэба ўжо зараз змяніць у сістэме, якая існуе?***

— У гэтых пытаннях у нашых краін вялізнае поле для сумеснай творчасці. Арганізаваная злачыннасць — наша агульная бяда. Расія і Беларусь — як сазлучаныя сасуды. Галоўны метад — добраўпарадкаваная эканоміка. Карані злачыннасці не ў тым, што аслаблены сілавыя структуры, хаця і гэта можа ўплываць. Але злачыннасць не знікне, калі на кожным вугле паставіць міліцыянера. Гэта адбудзецца толькі тады, калі будзе адладжана дзяржаўнае жыццё, рэгулюемая законамі эканоміка, судовая сістэма. Мы гаворым пра заканадаўчую, выканаўчую ўладу, але судовая ўлада, на маю думку, патрабуе сур'ёзных рэформаў. Весці барацьбу са злачыннасцю нельга адасоблена, але, паўтару, усё вынікае з эканомікі.

***— Што вы думаеце пра заяву ў Думе Віктара Ілюхіна?***

— Я з горыччу пачуў гэтую заяву. Ад яе патыхае празмерным клопатам... вобразна кажучы, старэйшага брата аб малодшым. У беларускай дзяржавы, я думаю, дастаткова людзей, заклапочаных лёсам сваёй краіны, здольных забяспечыць яе бяспеку, і падобныя заявы толькі нясуць з сабой сумятню, чуткі, домыслы, плёткі... Гэта непрадуманы крок.

***— Тым больш што крыніцу інфармацыі дэпутат Ілюхін пакінуў у тайне.***

— У любых міждзяржаўных зносінах існуюць моманты канфідэнцыяльныя, якія ўяўляюць, скажам, дзяржаўную тайну. Калі такія размовы адносяцца да гэтай сферы, то, натуральна, яны павінны весціся па-за СМІ. Калі сапраўды праблемы нейкія існуюць, навошта крычаць пра гэта на ўвесь свет?

Глядзіце, мы з вамі колькі размаўляем, і колькі сапраўды важных праблем, дзе можна праявіць клопат пра свайго бліжэйшага дружалюбнага суседа! Гэта першае. І другое: я не веру ў стэрэатыпы, у домыслы, згодна з якімі нам нехта звонку перашкаджае нармальна жыць. Гэта датычыцца ў аднолькавай ступені і Расіі, і Беларусі. Уся праблема ў нас саміх. Можна па-рознаму ставіцца да камуністаў, але нельга адмаўляць, што маюць рацыю словы старога партыйнага гімна: «Никто не даст нам избавленья: ни царь, ни бог и ни герой...» Праблема глыбейшая, чым наладжванне добрасуседства паміж краінамі: як наладзіць такія адносіны ўнутры краіны, унутры кожнага калектыву, у сям'і, як, у рэшце рэшт, жыць у згодзе з самім сабой?.. Трэба добра вывучаць мінулае. Гісторыю нельга перарабіць, але давайце разам шукаць у ёй урокі, імкнуцца да лепшага. Успамінаюцца вершы вялікага паэта Твардоўскага: «Кто прячет прошлое ревниво, тот вряд ли с будущим в ладу»... Самая вялікая праблема хаваецца ў духоўнай сферы, і пачынаць трэба з сябе, з экалогіі душы. Трэба знаходзіць кропкі судакранання, і радзей выкарыстоўваць такія паняцці, як «барацьба», «варожасць», «перамога». Я веру, што межы, якія нас падзяляюць (маю на ўвазе не дзяржаўныя межы!), з цягам часу знікнуць. Веру, што Айчына будзе адзінай, а мы будзем жыць па законах гармоніі, дабра і прыгажосці.

***— Для вас палітыка — майстэрства прайсці паміж Сцылай і Харыбдай, вы пра гэта самі гаварылі...***

— Паміж адасобленасцю і бязмежнай інтэграцыяй.

***— Так. Можа, усіх палітыкаў, ад якіх залежыць наш лёс, адправіць вучыцца філасофіі?***

— Я ўдзячны вам за пытанне. Няхай яно з'явіцца як бы квінтэсенцыяй усёй нашай размовы. У Старажытнай Грэцыі, на радзіме дэмакратыі, Платон гаварыў, што светам павінны кіраваць філосафы. Дзве з паловай тысячы гадоў таму філасофія была ўсеагульнай навукай, якая даслоўна азначае «любоў да мудрасці». Гэтай любові, мне здаецца, нам усім не хапае. Любоў да мудрасці неабходна для кожнага, хто прэтэндуе на права кіраваць дзяржавай...

**Таццяна СНІТКО.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### АБВЕШЧАНА ПЕРАМІР'Е, АДНАК НЕВЯЛІКІЯ ПЕРАСТРЭЛКІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Начальнік штаба сіл чачэнскага супраціўлення Аслан Масхадаў аддаў загад аб спыненні з 8 гадзін раніцы 14 жніўня баявых дзеянняў. Масхадаў пацвердзіў дасягненне дамоўленасці аб перамір'і ў ходзе яго сустрэчы з камандуючым расійскімі войскамі ў Чачні Палякоўскім. Прэс-сакратар дзяржкамісіі па чачэнскім урэгуляванні Сліпчанка заявіў, аднак, што Палякоўскаму і Масхадаву не ўдалося дамовіцца аб поўнамаштабным спыненні агню ў Грозным і развядзенні бакоў. Сліпчанка сказаў, што віной гэтаму пазіцыя чачэнскага боку, які ў якасці адной з умоў перамір'я вылучыў аддзяленне Чачні ад Расіі.

Заходнія агенцтвы паведамляюць, што ўчора ў поўдзень расійская авіяцыя нанесла ўдар па калоне ўцекачоў побач з селішчам Гікала. Удугаў сказаў, што пасля гэтага калона была абстраляна з верталётаў. Пра гэта парушэнне перамір'я, па словах міністра інфармацыі Ічкерыі, праінфарміраваны Аляксандр Лебедзь. Генерал Палякоўскі ў сваю чаргу заявіў, што чачэнскія апалчэнцы парушаюць пагадненне аб спыненні агню. Па яго словах, учора перастрэлкі працягваліся ў Чарнарэчанскім і Старапрамыслоўскім раёнах Грознага. Становішча ў сталіцы Чачні ў цэлым застаецца спакойным. Карэспандэнт радыё «Свабода» паведамляе, што апалчэнцы раздаюць мірным жыхарам ваду і харчаванне.

### МІНІСТРЫ АБАРОНЫ КРАІН СНД САБРАЛІСЯ Ў МАСКВЕ

У Маскве ўчора пачалося пасяджэнне Савета Міністраў абароны краін СНД. Адкрываючы пасяджэнне, міністр абароны Расіі Радзівонаў заявіў, што прыярытэтнымі накірункамі ваеннага супрацоўніцтва краін СНД павінны стаць фарміраванне сістэмы калектыўнай бяспекі і прадухіленне ўзброеных канфліктаў. У ходзе пасяджэння плануецца падпісанне шэрага дакументаў, у прыватнасці наконт пазіцыі Савета Міністраў абароны з нагоды планаў пашырэння НАТО на Усход.

### ВУЧЭННІ ПРОЙДУЦЬ БЕЗ УДЗЕЛУ РАСІІ

Учора ў амерыканскім штаце Паўночная Караліна пачаліся ваенныя вучэнні з удзелам падраздзяленняў армій ЗША, Канады, Галандыі, Аўстрыі, а таксама шэрага краін Усходняй Еўропы і СНД. Вучэнні, якія працягнуцца тры тыдні, пройдуць у рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру». Расійскія вайскоўцы не ўдзельнічаюць у манёўрах. Прадстаўнік Міністэрства абароны Расіі патлумачыў гэта адсутнасцю сродкаў для адпраўкі салдат і назіральнікаў у ЗША.

### КАМІСІЯ АДНАВІЛА РАБОТУ

Сумесная ізраільска-палесцінская камісія па грамадзянскіх справах аднавіла сваю работу. Бакі абвінавачваюць адзін аднаго ў шматлікіх парушэннях заключаных раней пагадненняў па блізкаўсходняму ўрэгуляванню. Работа камісій была перарвана ў лютым гэтага года пасля шэрага тэрарыстычных актаў з боку палесцінскіх груповак.

### АБРАБАВАЛІ САМАЛЁТ

Адразу пасля прызямлення пасажырскага авіялайнера ў французскім горадзе Перпенян чатыры ўзброеных рабаўнікі ў масках загадалі пілотам адкрыць багажнае аддзяленне і забралі адтуль сейф з буйной сумай грошай. Рабаўнікам удалося ўцячы з месца здарэння на аўтамабілі. Ніхто з пасажыраў не пацярпеў.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё 101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Дзіўнае жыццё выпала на долю наследніка брытанскай кароны, 13-гадовага прынца Уільяма. Ен вядзе як бы двайное жыццё, якое вызначаецца рознымі інтарэсамі і характарамі яго бацькоў. У час канікулаў, якія ён праводзіць з маці, прынц носіць джынсы, наведвае дыскатэкі і рэстараны, можа перакусіць гамбургерам і колай. Але, калі вяртаецца ў свой палац, ён вымушаны пераапрануцца ў твід і забаўляцца ўжо па-каралеўскі: разам з бацькам, прынцам Чарльзам, палюе і вудзіць рыбу, харчуецца дзічынай з чырвоным віном.

**Рэйтар.**

*Бессардэчны галівудскі акцёр Шын Пэн кінуў сваю сяброўку, мадэль Эль Макферсан, самым сучасным банальным спосабам — па факсу. У яго не хапіла духу сустрэцца з ёй асабіста ці хаця б патэлефанаваць, таму ён проста адправіў ёй ветлівае пасланне, у якім выказаў надзею, што яны застануцца сябрамі.*

**СПІД-ІНФО.**

У ЗША была створана спецыяльная аўтарытэтная камісія, задача якой — вызначыць усё самае-самае, чым было азнаменавана другое тысячагоддзе. Вось да якіх высноў яна прыйшла.

«Чалавекам тысячагоддзя» быў прызнаны Чынгісхан, чые заваёвы аказалі значны ўплыў на развіццё нашай эпохі. Шэкспір быў названы «геніем тысячагоддзя», друк — «вынаходкай тысячагоддзя», а Эйнштэйн — самым выдатным навукоўцам гэтага перыяду. Мікеланджэла, на думку экспертаў, самы ўплывовы мастак, а «Вяселле Фігара» — самы прадстаўнічы музычны твор. Гітлер, названы выяўленнем зла тысячагоддзя, разам з фрнацузам Напалеонам зрабілі самую вялікую памылку за гэты гістарычны перыяд: напалі на Расію...

**«Вашынгтон пост».**

# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## КАБ ЗАСЦЕРАГЧЫ ЧАХЛЫ

Тым, хто ездзіць на «Ніве» па цяжкіх дарогах (яны цяжкія ў нас амаль усе), даводзіцца ўвесь час асцерагацца, каб не пашкодзіць чахлоў на ніжніх шаравых апорах і знешніх шарнірах прывадаў колаў.

Каб іх зберагчы, зрабіце кажух (мал. 1) і пласціну (мал. 2), якія ўстанавіце, як паказана на малюнку 3.

Для вырабу дэталяў патрабуецца сталь таўшчынёй 2 мм і звычайныя інструменты: малаток, напільнік, дрыль, штангенцыркуль, вугольнік і транспарцір, а таксама электразварка (можна прымяніць і пайку цвёрдым прыпоем).

Перад зваркай усе дэталі і элементы трэба падагнаць па месцы.

Устанаўліваем дэталі наступным чынам: вывешваем пад апорныя чашкі спружын надзейныя апоры, апускаем мост да сціскання спружын і здымаем кола. Адкручваем гайкі двух крайніх балтоў М8, якія мацуюць шаравую апору да ніжняга рычага.

Надзяваем выраблены кажух на выступаючыя балты і зацягваем гайкі.

Надзяваем на анкерныя балты кажуха пласціну і мацуем яе гайкамі М6. Пакручваючы рулявое кола ў крайняе становішча, глядзім, ці не датыкаецца пласціна да дэталяў аўтамабіля, пасля чаго надзяваем колы.

**Мал. 1.** Кажух (левы, правы). **1** — аснова; **2** — стойка; **3** — анкерны болт (4 шт.); **4** — касынка.

**Мал. 2.** Пласціна (правая, левая). **1** — аснова; **2** — рабро.

**Мал. 3.** Кажух і пласціна на аўтамабілі.

## ПАЛІЦА НА ЛІПУЧЦЫ

Каб накрыўка паліцы ў багажніку ВАЗ-2108 або 2109 не грукала пры яздзе па няроўнай дарозе, прыклейце да яе і да паліцы **(гл. малюнак)** засцежкі- «ліпучкі». Вынік будзе выдатны.

## ШТУЦЭР ДЛЯ ЗЛІВАННЯ ВАДКАСЦІ

Каб хутка і без страт зліваць ахаладжальную вадкасць з блока цыліндраў у «Жыгулях», паспрабуйце прымяніць штуцэр, які паказаны на малюнку.

Укручваем яго ў блок замест пробкі, на трубку надзяваем шланг, апушчаны ў прыдатную тару, куды пачне зліваццa вадкасць пасля адкручвання пробкі.

**На малюнку: 1** — корпус (латунь); **2** — пробка (сталь).

## ЗРУЧНЫ ГРАФІК

Пастаянны кантроль за расходам паліва дазваляе сачыць за тэхнічным станам аўтамабіля ці матацыкла і прадухіліць перарасход сродкаў з бюджэту сям'і.

Каб хутка вызначыць удзельны расход, ведаючы аб'ём выкарыстанага бензіну і пройдзены шлях, прымяніце намаграму, якая паказана на малюнку.

Напрыклад, калі 30 літраў бензіну пайшло на 400 кіламетраў, то з кропкі «30», устанавіўшы перпендыкуляр да перасячэння з нахільнай лініяй «400», знойдзем адпаведны ўдзельны расход — 7,5 л/100 км.

Гэты графік вельмі зручна заўсёды мець у машыне.

# Post Factum

## Гэты дзень у гісторыі

**15 жніўня 1769 года** нарадзіўся Напалеон Банапарт, імператар Францыі ў 1804—14 гадах і ў сакавіку—чэрвені 1815-га. Ураджэнец Корсікі пачынаў вайсковую службу ў чыне лейтэнанта артылерыі, вызначыўся ў перыяд Вялікай французскай рэвалюцыі, займеўшы чын брыгаднага генерала. У 1799 годзе здзейсніў дзяржаўны пераварот (18 брумера). У 1804 годзе абвешчаны імператарам Францыі. Правёў шэраг пераможных войнаў, значна расшырыўшы межы імперыі, распад якой пачаўся пасля паражэння ў вайне 1812 года. Апошнія гады жыцця правёў на в. Св. Алены палонным англічан.

**15 жніўня 1771 года** нарадзіўся Вальтэр Скот, славуты шатландскі раманіст, стваральнік жанру гістарычнага рамана («Уэверлі», «Пурытане», «Айвенга», «Квенцін Дорвард»).

У гэты дзень у 1785 годзе нарадзіўся вядомы расійскі кампазітар Аляксандр Аляб'еў, аўтар славутага раманса «Салавей»; адзін з першых паклаў на музыку лірычныя вершы Пушкіна.

**15 жніўня 1831 года** нарадзіўся Вінцэсь Каратыскі, вядомы беларускі і польскі паэт і журналіст.

У гэты дзень **у 1878 годзе** нарадзіўся барон, генерал-лейтэнант Пётр Урангель, адзін з арганізатараў контррэвалюцыйнага руху ў часы грамадзянскай вайны на тэрыторыі Расіі, а пазней — і ў эміграцыі.

**15 жніўня 1896 года** нарадзіўся Іёна Якір, вядомы савецкі военачальнік і дзяржаўны дзеяч. Расстраляны ў 1937 годзе па справе так званай «Антысавецкай трацкісцкай ваеннай арганізацыі ў Чырвонай Арміі». Рэабілітаваны праз дваццаць гадоў.

**15 жніўня 1931 года** нарадзіўся вядомы савецкі кампазітар Мікаэл Тарывердзіеў, найбольш вядомы сваёй музыкай да кінафільмаў («Семнаццаць імгненняў вясны», «Іронія лёсу, ці З лёгкай парай» і інш.).

## Цікава

***Паводкі, як вядома, прыносяць вялікую шкоду прыбярэжным раёнам многіх дзяржаў — Расіі, ЗША, Кітая... Ад веснавых паводак церпіць і наша краіна. Рушацца жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы, разбураюцца дарогі, масты, лініі электраперадач і г.д. І ўсё ж ёсць надзея, што страты ад гэтай стыхіі будуць у бліжэйшы час не такімі страшнымі...***

Амерыканская фірма «Уінстан Інтэрнэшнл» з Каларада запатэнтавала незвычайны дом, які не баіцца паводак.

Пад такім домам пры яго ўзвядзенні размяшчаюць кантэйнеры з пенапластам, якія надаюць яму плывучасць, і пры паводцы дом проста ўсплывае, пры гэтым яго ўтрымліваюць на месцы спецыяльныя тэлескапічныя палі, якія рассоўваюцца.

У час стыхіі аўтаматычна адключаюцца камунікацыі, падведзеныя да дома, — электрасетка пераходзіць на сілкаванне ад аўтаномнага генератара, а водаправод — ад рэзервуара з запасам вады. Зараз будуецца доследны ўзор плавучага дома.

## Дзесьці на белым свеце

У ЗША праведзена апытанне 1000 грамадзян аб тым, **які бытавы прыбор,** з тых, што з'явіліся за апошнія 10—15 гадоў, **лічаць самым важным.**

63 працэнты апытаных паставілі на першае месца мікрахвалевую печ, 43 працэнты — кабельнае тэлебачанне, 35 працэнтаў — аўтаадказчык, 32 — відэамагнітафон і 29 працэнтаў — персанальны камп'ютэр.

**Самы буйны град** выпаў 28 сакавіка 1867 года ў горадзе Белары ў Індыі. Градзіны былі памерам з какосавы арэх, некаторыя з іх дасягалі ў вазе трох фунтаў (1,5 кілаграма). Толькі крыху ўступаў яму град, які выпаў у 1986 годзе ў Бангладэш. Градзіны важылі да кілаграма і пры падзенні забілі 92 чалавекі.

## Канфлікты

***Адна сямейная пара з амерыканскага горада Чыкага напярэдадні свайго вяселля вырашыла заносіць у спецыяльны сшытак усе сваркі, якія адбываліся паміж імі, і ўважліва іх аналізаваць.***

За 40 гадоў сумеснага жыцця было зафіксавана каля 10 тысяч сварак рознай інтэнсіўнасці — яны здараліся амаль штодзень.

Часцей за ўсё зафіксаваны папрокі мужа ў адрас жонкі з-за нясмачнай ці несвоечасова прыгатаванай ежы (1879), далей — зноў жа заўвагі мужа наконт таго, што яго «палавіна» не лепшым чынам траціць грошы (1450) і толькі на трэцім месцы — 980 скаргаў жонкі, што муж уваходзіць у кватэру ў брудным абутку.

## Анекдот

*Маці кажа сыну:*

*— Вовачка, зачыні фортку, на вуліцы холадна.*

*— А што, мама, калі я закрыю, на вуліцы стане цяплей?*

# Віншаванні

*Любыя бацькі Зінаіда Канстанцінаўна і Аляксандр Сяргеевіч ПРОТАСЫ! Віншуем вас з залатым вяселлем. Жадаем моцнага здароўя і бадзёрасці на доўгія гады.*

**Пяцёра сыноў, нявесткі, унукі.**

*Віншуем Аляксандра Мікалаевіча БАЛОЦЬКУ з вёскі Пасека Старадарожскага раёна з 30-гадовым юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, сямейнага дабрабыту і доўгіх-доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка Таццяна, дочкі Юля і Валянціна.**

*Віншуем з днём нараджэння Зінаіду Рыгораўну ГАРОДКА. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*

**Сям'я Мінічаў з пас. Дружны.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння дарагога сына Уладзіміра. Жадаем моцнага здароўя, вялікага шчасця і заўсёды заставацца чалавекам.*

**ст. Скрыбаўцы, Поварга — тата і мама.**

*Віншуем нашых любых дачок Ірыну і Таццяну ЛОСІК з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, удач.*

**Бацькі, г. Копыль.**

*Віншуем з днём нараджэння Нілу Міхайлаўну ШКУРКО. Жадаем здароўя, радасці і шчасця.*

**Бацькі, муж, сын, дачка, зяць, унукі.**

*Віншую дарагую матулю Лілію Вацлаваўну КАЗЛОЎСКУЮ з днём нараджэння. Жадаю здароўя, шчасця, дабрабыту.*

**в. Пагошча, дачка Танюша.**

*Віншуем з 40-годдзем Канстанціна Іванавіча НАГУЛЕВІЧА і 16-годдзем — сына і брата Анатолія. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы і вучобе, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Жонка Тамара, дочкі Оля і Вераніка з в. Вераб'евічы.**

36,6°

# Народная медыцына ...

### ...ад камянёў у печані і нырках

Прапусціць праз мясарубку адну шклянку канаплянага семя, змяшаць з трыма шклянкамі сырога малака, уварыць да аб'ёму адной шклянкі. Гарачы настой працадзіць і піць нашча — па адной шклянцы на працягу пяці дзён. Праз паўтара тыдня паўтарыць. Не есці нічога вострага. Магчымы прыступы болю ў печані. Курс гэтага лячэння трэба праводзіць рэгулярна на працягу паўгода. Як сцвярджаюць народныя лекары, поўнае вылячэнне — без сумненняў.

### ...ад болю ў нагах

Свежым адварам сеннай пацярухі змачыць кавалак мешкавіны, абгарнуць ім на паўгадзіны ногі. Затым зрабіць ванну з настою сасновых галінак з тэмпературай вады 40 градусаў на 10—20 хвілін з далейшым кантрастным гарача-халодным абліваннем.

Пазбавіцца ад варыкознага расшырэння вен дапаможа наступны сродак: тры яблыкі сярэдняй велічыні памыць халоднай вадой, пакласці ў эмаліраваны посуд і заліць літрам крутога кіпеню. Шчыльна ўхутаць коўдрай ці накрыць падушкай і даць настоіцца тры гадзіны. Затым яблыкі растаўчы і атрыманы настой працадзіць. Прымаць штодзённа па 50 г раніцай нашча і ўвечары перад сном.

### Яшчэ раз — пра лячэнне насмарку

На парозе восень: магчымы захворванні дыхальных шляхоў, у тым ліку і з'яўленне насмарку.

Вельмі эфектыўны сродак наступны. Адзін зубок спелага часнаку дробна накрышыць і пастарацца як мага глыбей укласці яго ў ноздры, каб адчуць лёгкае смыленне ўнутры носа. Прачхацца і ачысціць нос, затым гэтую працэдуру неабходна паўтарыць. Праз дзве-тры гадзіны насмарк пройдзе.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4496.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12